адна зямля

# Рэгіянальная газета

4 студзеня 2013 года
№ 1 (923)

Тэлетыдзень 26

http://rh.by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".




## З Калядамі!

**Усіх праваслаўных вернікаў і іх сем'і з Калядамі віншуе "Рэгіянальная газета"!**

# Пошта прыносіць у дамы цуд



Калаж "РГ".

Дзіцячыя жаданні праходзяць доўгі шлях ад напісання да здзяйснення.

**МАЛАДЗЕЧНА. Папяровыя лісты да Дзеда Мароза не губляюць папулярнасці. Звярнулася да галоўнага героя свята і пяцігадовая Ульяна Лубочка з Маладзечна. У сваім лісце яна папрасіла ў Дзеда Мароза "цацку-коніка, канструктар лега і яшчэ хоць што-небудзь".**

Ліст дзяўчынкі патрапіў у рэдакцыю "Рэгіянальнай газеты". Рэдакцыйны Дзед Мароз адразу паспяшаўся ў госці да дзяўчынкі.

На парозе яго сустрэла прыгажуня Ульяна, якая старанна падрыхтавалася да прыходу Дзядулі Мароза. Шыкоўная сукенка, доўгія светлыя валасы і сярэбраная карона – дзяўчынка выглядала сапраўднай прынцэсай.

Да таго ж яна падрыхтавала вершык пра навагоднія святы, а таксама расказала Дзеду Марозу, што добра паводзіла сябе на працягу года. За што і атрымала ў падарунак доўгачаканага коніка.

"Рэгіянальная газета" вырашыла высветліць, які шлях праходзіць ліст да Дзеда Мароза. На што можа разлічваць дзіця, напісаўшы пра свае жаданні?

### Калі ліст аформлены правільна – адказ прыйдзе

– Так, дзіцячыя лісты ідуць, – расказвае **Вольга Антановіч**, загадчыца чацвертага аддзялення сувязі Маладзечна. – Ад пачатку снежня мы атрымліваем іх ледзь не кожны дзень. Мы не ставім асобнай скрынкі "для Дзеда Мароза", усе лісты ідуць у агульную скрыню.

Дзіцячыя лісты вельмі розныя па афармленні. Многія не пазначаюць зваротны адрас і не клеяць марку. Па-свойму пішуць і адрас Дзеда Мароза – нехта бачыць яго у Лапландыі, нехта ў Белавежскай пушчы. Абавязковая пазнака, якая ёсць на ўсіх канвертах, – проста "Дзеду Марозу".

Але ж зваротны адрас усё ж лепей пазначаць: тады верагоднасць атрымаць адказ нашмат узрастае.

Калі да справы далучаюцца дарослыя, то ліст часам дасылаецца заказной поштай.

– У мінулым годзе мае пляменнікі дасылалі ліст Дзеду Марозу заказным лістом, – дзеліцца асабістым досведам спадарыня Вольга. – Вядома, яны пазначылі зваротны адрас. У адказ ім прыйшоў ліст-віншаванка ад Дзеда Мароза з Белавежскай пушчы.

Супрацоўніцы пошты пры мне правяраюць паштовую скрыню, што вісіць на будынку пошты. Сёння лістоў да Дзеда Мароза няма. Заўважаюць, што ўчора быў толькі адзін канверт, а пазаўчора – тры.

– Мы не зважаем на тое, ці ёсць на канверце марка, – кажа **Анжэла Макарэвіч**, загадчыца ўчастка па апрацоўцы і абмене поштай. – Усе лісты, адрасаваныя Дзеду Марозу, мы накіроўваем у Мінск. Адтуль яны ўжо ідуць далей, у Белавежскую пушчу.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

**Працяг на 17-й старонцы.**

### Анекдот у тэму ад Анжэлы Макарэвіч

Хлопчык напісаў ліст Дзеду Марозу. Папрасіў шапку, шалік і пальчаткі.

Супрацоўнікі пошты прачыталі ліст і пашкадавалі хлопчыка. Сабралі грошы, набылі яму шапку і шалік.

Пазней прыходзіць другі ліст ад таго ж хлопчыка да Дзеда Мароза. Супрацоўнікі пошты чытаюць: "Дарагі Дзядуля Мароз, дзякуй вялікі за падарунак! Але ведаеш, гэтыя заразы на пошце скралі мае пальчаткі".

## навіны рэгіёна

### Смаргоншчына на старых фотаздымках

**СМАРГОНЬ.** У гісторыка-краязнаўчым музеі напярэдадні новага года адбылося ўрачыстае адкрыццё выставы "Гартаючы старонкі гісторыі", на якой на старых фотаздымках адлюстраваная Смаргоншчына. На фотаздымках можна паглядзець, якім гэты горад і раён быў раней, як ён мяняўся. Тут кожны зможа ўбачыць знаёмыя месцы, будынкі, вуліцы такімі, якімі яны былі ў 1950-х, 60-х ці 70-х гадах. У межах выставы аматары фатаграфіі змогуць пазнаёміцца з гісторыяй адкрыцця фотаапарата і фатаграфіі. Выстава будзе працаваць да 25 студзеня.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

АРХІТЭКТУРА

# Якім стане Маладзечна

**МАЛАДЗЕЧНА. Пра тое, як змяніцца горад і раён сёлета і ў наступныя гады, распавяла начальнік аддзела архітэктуры і будаўніцтва Маладзечанскага райвыканкама Святлана Хрусталёва.**

На 2013 год запланаваны ўвод у эксплуатацыю 65 тысяч квадратных метраў жылля. Прыкладна 20 тысяч з іх – кватэры з рознай колькасцю пакояў у шматпавярховых дамах. Яшчэ 45 тысяч квадратных метраў – гэта прыватныя дамы, якія будуюць у Маладзечанскім раёне.

Плануецца, што сёлета пачнецца будаўніцтва гандлёвага цэнтра ў мікраёне №7 горада Маладзечна, які паўстане насупраць Усходняга мікраёна. Будынак размесціцца непадалёк ад стэлы.

Сёлета "Камунальнік" плануе добраўпарадкаваць тэрыторыю каля абеліска і брацкай магілы савецкіх воінаў і ахвяр Вялікай Айчыннай вайны ў скверы па вуліцы Язэпа Драздовіча. У прыватнасці, там пакладуць дробнаштучную каляровую плітку.

Інстытут "Маладзечнапраект" рыхтуе праектна-каштарысную дакументацыю на будаўніцтва дзіцячага садка-школы ў мікраёне Усходнім.

Аднак тое, што цяпер ёсць у горадзе, – гэта толькі частка планаў па добраўпарадкаванні горада. Сёлета першачарговае пытанне – гэта запланаваны капітальны рамонт вуліц, прычым не толькі цэнтральных – асфальтавае пакрыццё, асвятленне, пешаходныя дарожкі.

## Парк працягне прыгажэць

Сёлета "Камунальнік" праводзіць праектна-пошукавыя работы на добраўпарадкаванне паўднёвай часткі гарадскога парку культуры і адпачынку імя Перамогі. Праект будзе прадугледжваць дзіцячую пляцоўку, месцы для адпачынку.

Дадатковыя работы будуць праводзіцца з вострававам у паўднёвым вадаёме. Меркавалася, што там пасяляцца птушкі, але так не здарылася. Таму прапануюць паставіць там ці ратонду, ці альтанку, а таксама мосцік, каб туды можна было прайсці.

Плануецца праектаванне размяшчэння ў парку ЗАГСа на былой танцавальнай пляцоўцы. Над эскізам будынка і тэрыторыі каля яго ўжо працуюць супрацоўнікі "Маладзечнапраекта".

Праекты, якія прадугледжвае генплан, маюць перспектыву рэалізацыі



Архіў "РГ".

Перад "Дажынкамі" прапаноўвалі такі праект вуліцы Прытыцкага.

да 2020 года.

## Новыя фантаны

– Усе гавораць, як цудоўна за апошнія гады змяніўся горад, папрыгажэў, – распавядае Святлана Хрусталёва. – І нават мінчане гавораць, што з задавальненнем тут жылі б. Гэта вельмі прыемна чуць. У 2011 годзе Маладзечна перамогло ў рэспубліканскім аглядзе-конкурсе на самы добраўпарадкаваны горад. Падалі матэрыялы і сёлета, спадзяёмся таксама атрымаць прызавое месца.

Праектам дэталёвай планіроўкі цэнтральнай часткі горада было прадугледжана, што пры стварэнні пешаходнай зоны зробяць і два падземныя пераходы – на вуліцы Валынца і Лібава-Роменскай. Аднак на рэалізацыю гэтых праектаў пакуль няма сродкаў.

– Мы часта абмяркоўваем частку пешаходнай вуліцы, якая бліжэй да чыгункі, – тлумачыць Святлана Хрусталёва. – Нам вельмі хацелася б насыціць яе малымі архітэктурнымі формамі, вертыкальнымі шмат'яруснымі кветачніцамі. Хочацца зрабіць тут фантан. Напрыклад, такі, як на вуліцы Леніна ў Мінску – са струменямі рознай вышыні, з падсветкай. Але гэта патрабуе сур'ёзных выдаткаў, таму калі гэта будзе рэалізавана, пакуль не можам сказаць.

## Ці застануцца ў цэнтры прыватныя дамы

У будучыні прадугледжаны знос дамоў па вуліцах Бухаўшчына, Лібава-Роменскай, Буйніцкага, Віленскай, 17 Верасня. Паводле генплана, тэрыторыя каля вуліцы Прытыцкага – цэнтральнае ядро горада, гэта самы цэнтр. Таму тут некалі пабудуюць шматпавярховыя дамы на сем, дзевяць і нават дзесяць павярхоў.

Знос прыватных дамоў быў прадугледжаны яшчэ генпланам, які распрацавалі ў 1982 годзе. І пер-



Архіў "РГ".

Такой бачылі начны варыянт пешаходнай вуліцы.

шае, што ўжо рэалізавана, – гэта шматпавярхоўка за Палацам культуры. Яшчэ ў 2003 годзе было прынятае рашэнне гарвыканкама, паводле якога забаранілі будаваць новыя прыватныя дамы ў гэтай частцы горада.

І нават існаваў інвестар, які хацеў знесці хаты па вуліцах Буйніцкага, Партызанскай і Грамадоўскай. Падлічылі, што неабходна каля 90 кватэр, каб адсяліць людзей. Пачалі распрацоўваць праект, уклалі каля 30 мільёнаў рублёў. Але калі прыйшоў крызіс, інвестары адмовіліся ад праекта. Аднак гэта ўсё ж будзе рэалізавана, і ў цэнтры горада паўстануць прыгожыя дамы, сучасная інфраструктура.

## Што можна будаваць на Старым Месце

У межах рэалізацыі генплана забудовы Маладзечна распрацаваны дэталёвы план цэнтральнай часткі горада з праектам рэгенерацыі гістарычнай зоны.

Гістарычная частка знаходзіцца ў раёне Старога Места. У гэтай частцы горада забароненае будаўніцтва вытворчых аб'ектаў і шматпавярховак.

## Рынак па Хмяльніцкага трэба перанесці

Сучасны рынак па вуліцы Хмяльніцкага не адпавядае санітарным нормам. Не вытрыманая санітарна-ахоўная зона да жылых дамоў, няма неабходнай колькасці паркавачных месцаў. У базарныя дні машынамі занятыя ўсе бліжэйшыя вуліцы і дваровыя тэрыторыі. Перанесці яго плануюць да рэчыўвага рынку.

Аднак складанасць рэалізацыі ў тым, што на рынку шмат аб'ектаў, якія знаходзяцца ва ўласнасці не толькі райспажыўтаварыства. Таму на такі праект неабходна знайсці інвестара.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

**У 2013 годзе ўводзяць у эксплуатацыю наступныя аб'екты:**
- Забойны цэх новых вытворчасцей мясакамбіната за мікраёнам Парашкі.
- гандлёвыя цэнтры "Маладзечнамаркет" па вуліцах Будаўнікоў, у мікраёне №6 на перакрыжаванні Вялікага Гасцінца і вуліцы Гарадоцкай.
- Радашкавіцкі Дом культуры рэканструююць пад вытворчасць дэкаратыўнай касметыкі "Белордызайн".
- аб'ект прыдарожнага сэрвісу "Зорка аўтастрады" каля Радашкавічаў. Уключае гасцініцу, краму, кафэ і аўтастаянку.

ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ МАЛАДЗЕЧАНЦАЎ

# Ці варажылі вы калі-небудзь на Каляды і Новы год?



**Ганна Васілеўская, бухгалтар:**

– Не, у мяне і думкі такой не ўзнікала. Ведаю, што сяброўкі некалі варажылі – і пры дапамозе пярсцёнка, і боты праз плот кідалі. Збывалася нават нешта, але па дробязях.



**Галіна Крывашыя, пенсіянерка:**

– Вядома. Напрыклад, хавалі кавалачак куцці пад падушку, а пасля нам сніліся прарочыя сны. Дзяўчатам маладзей – падзеі з жыцця, старэйшым – будучы муж. А яшчэ пяклі салёныя бліны і выходзілі з імі за вёску, на сметнік. Там іх елі і чакалі, пакуль забрэша сабака. Адкуль будзе гук – туды і замуж пойдзеш.



**Алена Гурло, санітарка:**

– Варажыла, калі маладая была. Мы з сяброўкамі, памятаю, нешта пад ложак ставілі, каб суджаны ў сне прыйшоў. А вось што – не памятаю. Але мы былі такія малыя, у класе шостым, што варажба пра вяселле ніколі не збывалася.



**Алёна Валадзько, студэнтка:**

– Я не варажыла, бо і не ўмею, і крыху баюся. Цяпер жыву ў інтэрнаце і ведаю, што мае аднакурсніцы будуць варажыць. Кожная апранае тапачкі на рукі і па чарзе ставіць рукі на падлогу. Атрымліваецца ланцужок. Тая, якая першай дойдзе да канца доўгага калідора, выйдзе замуж у наступным годзе.



**Марыя Крывашыя, інжынер:**

– На каталіцкія Каляды мы заўсёды варажылі. Тады я жыла ў вёсцы Вугляны, якую цяпер называюць Рэдзькамі. Адзінае, чаго баялася, – варажбы з люстэркам. Таксама спрабавалі прысніць будучае. Але як добра наясіся на ноч – то ўсё, што заўгодна, прысніш.



**Валянціна Зубарава, пенсіянерка:**

– У гадоў 17-18 мы з сяброўкамі варажылі. Памятаю, як аднойчы паклала пад падушку грэбень, каб суджаны прысніўся. Але быў у тую ноч жахлівы сон – прысніўся такі агідны мужчынскі голас, што я вельмі спалохалася. Пасля гэтага не варажыла болей.



**Ганна Слупачык, візажыст:**

– Я не варажу, таму што хрысціянка. У Біблії напісана, што варажба – вялікі грэх. На маю думку, гэта сувязь з Сатаной, а не з Богам.

**Падрыхтавалі Вольга ЮРКЕВІЧ, Аляксандра ПАРАХНЯ.**



# Камент-эксперт



Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420

### Што жадае Фёдар Дамаценка ў падарунак на Новы год

Маладзечна – самы цудоўны горад, які напоўніцу жыве і ўвесь час развіваецца. Няхай так будзе і далей! *Аляксей.*

### Фотарэпартаж з пераднавагодняй Вільні

Прыгожа і з густам! :) *Alena.*

Цікава вельмі... Такая ціхая святочная атмасфера. Захацелася пабыць там калядным вечаркам). *Дар'я.*

Такі фотарэпартаж -- проста супер. Хацелася б толькі, каб вы расказалі пра Рэспубліку Зарэчча. *Eva.*

### Канфлікты ў сямейным жыцці

Дзякуй за такі глыбокі і цікавы артыкул! Некаторыя з парад былі мне вядомыя і раней, але чамусьці ў час сваркі яны забываюцца і як ні стараешся ўзяць эмоцыі пад кантроль, палічыць да дзесяці, зрабіць некалькі дыхальных цыклаў, усё ж ускладняеш канфлікт. Не згодна толькі з меркаваннем псіхолага аб тым, што вырашэнне канфлікту можна адкласці на наступны дзень і пагаварыць на свежую галаву. Лічу, што да таго, як легчы спаць, трэба зняць напружанне, памірыцца і супакоіцца. Але гэта маё асабістае меркаванне, нікому яго не навязваю. *Learner.*

А нам гумар толькі перашкаджае!( *Эльвіра.*

### Ці магчыма такое ў нашым рэгіёне? Кантралёра, які патрабаваў білеты, цягаюць за валасы

У гэтых людзей былі талончыкі. Дарослыя за сябе заплацілі, а хлопчыка спрабавалі правезці як вучня. Было позна, школьны час выйшаў, і кантралёр запатрабавала талон і на яго. У прынцыпе – зразумела. А калі па-чалавечы? Няўжо б гэта дзіця нанесла краіне і аўтапарку шкоду. А цяпер – анекдот:

Падыходзіць у аўтобусе кантралёр да мужчыны:

– Ваш квіток?

– А Ваш?

– Я кантралёр! - абураецца жанчына.

– А я электрык, дык што ж мне цяпер, за святло не плаціць? *Черешня.*

### У Маладзечне з'явіцца новы мікрараён

Ну "Будпраект" распрацуе! Як распрацаваў 11-ты мікрараён. Электракабелі на 11-ты запраектаваў па полі, на якім цяпер будзе праектаваць 7-мы мікрараён!!! Няўжо нельга было іх пракласці па другой трасе? *Fisoi Alirab.*

### Вільня. Два гарады ў адным

Вялікі дзякуй за жывое шчырае слова. *Валянцін, Вільня.*

### Зялёна-белыя фанаты з Маладзечна

Дзякуй "Рэгіянальнай газеце", што цікавіцца футболам у Маладзечне і яе заўзятарамі. *Paulichak_fcm.*

Эх, каб у маладзечанскім футболе яшчэ падзеі яскравыя часцей адбываліся! Думаю, тады са старонак "РГ" і не сходзіла б гэтая тэма))) *Аматар).*

Пры любым раскладзе і выніках каманды "РГ" заўсёды друкуе матэрыял пра маладзечанскі футбол! *Paulichak_fcm.*

### Выбіраем бяспечную цацку для дзіцяці

Каб жа бяспечныя цацкі былі такія ж цікавыя, як і "кітайскія". Дзіцяці цікава глядзець дыснееўскі мультфільм не таму, што там такія цікавыя гісторыі, а таму, што там шмат яркіх фарбаў. Тое самае і з цацкай. Хай яна не самая карысная, але абы прыгожая! Але як дабіцца праўды наконт экалагічнасці, калі самі прадаўцы нічога пра тавар не ведаюць. Выбірала так нядаўна падарунак на Новы год сыну, дзіцячы сінтэзатар. Хочацца ж абраць той, дзе лепшы гук, паслухаць. Дык прадавец з такім выглядам раскручвала і даставала з каробкі цацку і ўсталёўляла туды батарэйкі, што я нават не рашылася папрасіць праверыць іншыя варыянты, каб параўнаць. Вельмі адказна быць прадаўцом дзіцячых тавараў, бо маладым бацькам часта патрэбныя парады. *Юля.*

### ІНТЭРНЭТ-АПЫТАННЕ

**Што вы хочаце ў падарунак на Новы год?**

| | |
|---|---|
| 7% | Вялікі стол з безліччу смачных страў, і каб ён сам з'явіўся |
| 22% | Запрашэнне ў захапляльнае падарожжа |
| 15% | Грошы |
| 40% | Каб здзейснілася маё жаданне |
| 2% | Якую-небудзь святочную сімвалічную дробязь |
| 12% | Штосьці, што будзе патрэбнае увесь год: кававарку, духі ці хаця б кубак |

Усяго галасоў 40

СПАЖЫВЕЦ

# Што рабіць, калі вы нешта выпадкова разбілі ў краме?

**МАЛАДЗЕЧНА. "Ой, звалілася!" Такое ў краме здараецца. Адзін няёмкі рух – і тавар ляціць з паліцы на падлогу. Ці абавязаны пакупнік аплачваць разбіты тавар?**




Адзін няёмкі рух – і тавар ляціць з паліцы на падлогу…

Наш чытач спадар Аляксандр скардзіцца: "Праходзячы праз вузкі праход паміж стэлажамі ў адной з крамаў, зачапіў кошыкам кубачак з сервіза, які зваліўся з паліцы і, натуральна, разбіўся". Здавалася б, віна крамы, бо злашчасны кубак стаяў нязручна і пакупнік не вінаваты ў гэтым інцыдэнце. Але яму прыйшлося аплаціць кошт усяго сервіза, бо пакупнік не ведаў усе свае правы, а крама ў сваю чаргу не прызнала сваю віну.

Падобныя сітуацыі здараюцца даволі часта, асабліва ў крамах самаабслугоўвання, дзе тавар размешчаны ў прамым доступе і вы можаце яго патрымаць, а пры жаданні, пакласці ў кошык для пакупак.

Прадаўшчыца Алена адной з маладзечанскіх крамаў расказала, што калі пакупнік узяў бутэльку ў рукі і не ўтрымаў яе, то ў гэтым цалкам яго віна, таму за бутэльку яму прыйдзецца заплаціць.

Аднак, калі ён паслізнуўся на толькі што памытай падлозе і з размаху знёс цэлы стэлаж з дарагім віскі – у гэтым цалкам віна крамы, і тады пакупнік мае права не аплачваць разбіты тавар.

Іншы прыклад: пакупнік паставіў тавар на стужку касы, касір націснула на кнопку, стужка паехала, і бутэлька звалілася на падлогу і пры гэтым разбілася. Тут таксама цалкам віна крамы, і пакупнік не абавязаны аплачваць кошт гэтай бутэлькі.

### Што рабіць, калі адміністрацыя вымушае заплаціць?

Калі пакупнік сам вінаваты ў пашкоджанні тавару, ён можа добраахвотна пакрыць краме яго кошт. Аднак калі ён не лічыць сябе вінаватым, то адміністрацыя крамы можа патрабаваць ад яго аплаты пашкоджанага тавару толькі праз суд.

У выпадку спадара Аляксандра, які аплаціў увесь набор кубачкаў і захаваў чэк, усё скончылася добра. Ён не разгубіўся і напісаў скаргу на краму, а праз некаторы час да яго на працу прыехаў сам дырэктар крамы і вярнуў грошы.

Кожны пакупнік можа звярнуць увагу на парушэнні ў краме ці, напрыклад, на пратэрмінаваны тавар.

Лепш патрабаваць у адміністратара Кнігу скаргаў, а таксама скласці акт аб пашкоджанні тавару. У акце напісаць пра свой пункт погляду на тое, што адбылося.

Пакупніку можа спатрэбіцца дапамога сведак – сваякоў, сяброў або іншых пакупнікоў крамы. Дадзены акт можа стаць доказам у судзе. Пра гэта паведаміў **Уладзімір Клешч**, старшыня Маладзечанскай арганізацыі абароны правоў спажыўцоў.

Пры гэтым ні ў якім разе не аддавайце супрацоўнікам крамы свае дакументы, патрабаваць пашпарт у вас яны права не маюць.

### Што рабіць, калі ахоўнік не выпускае вас з крамы?

Калі вы патлумачылі адміністрацыі крамы, што згодныя пакрыць шкоду, толькі калі ваша віна ў пашкоджанні тавару будзе даказаная праз суд, а супрацоўнік усё роўна вас не выпускае, дзейнічае груба або пагражае, ён перавышае свае паўнамоцтвы.

На дзеянні ахоўніка вы можаце паскардзіцца ў праваахоўныя органы, бо менавіта яны займаюцца ліцэнзаваннем ахоўнай дзейнасці.

– Калі ў краме вузенькія праходы і вы зачапілі рукой тавар, які з-за гэтага разбіўся, то ўся віна кладзецца на краму, аплачваць тавар вы не абавязаны, – кажа Уладзімір Клешч. – Ніякі ахоўнік ні ў якім разе не мае права абшукваць пакупніка. Гэта таксама перавышэнне яго паўнамоцтваў.

Такім чынам, адпраўляючыся ў краму, будзьце ўважлівыя і асцярожныя. Калі вы вінаватыя, крама сапраўды мае права патрабаваць аплаціць разбіты тавар, аднак калі вашай віны няма, плаціць вы не павінны.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

СВЯТЫ

## У Мядзеле віншавалі дзяцей з усяго раёна

**МЯДЗЕЛ. У пятніцу, 28 снежня, у райцэнтры адбылося раённае навагоднее дабрачыннае свята. У Мядзел з усіх куткоў раёна прыехалі 119 дзяцей.**

Сярод іх – адораныя дзеці, сіроты, дзеці з абмежаванымі магчымасцямі. Яны вадзілі карагоды, танцавалі разам з Дзедам Марозам, Снягуркай, Дракошай, Клоўнам, Змяёй ды іншымі персанажамі. А таксама расказвалі ім вершы і абаранялі свае касцюмы.

Для іх паказалі музычны спектакль "Сапраўдныя чараўнікі".

Кожны з дзяцей атрымаў падарунак і прыз. Спонсарамі свята сталі раённы выканаўчы камітэт і раённае аддзяленне Беларускага дзіцячага фонду. Не застаўся ўбаку і індывідуальны прадпрымальнік Аляксандр Сянюць.

Падобнае мерапрыемства праходзіць на Мядзельшчыне штогод.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**




Верш расказвае Даша Талайка.



ПРАКУРАТУРА, СУД



Фота velomasterclass.ru.

Сёмым крадзяжом стаў ровар за 800 тысяч рублёў.

# Асудзілі за сёмы крадзеж

**МАЛАДЗЕЧНА. Першы раз 35-гадовы жыхар вёскі Вяжуці ўчыніў крадзеж 11 гадоў таму, калі яму было 24-ы.**

Апошні здзейсніў летась 12 верасня.

Калі гаспадар дома ў вёсцы Вяжуці каля 11 гадзін паехаў на поле, мясцовы мужчына, а быў ён нецвярозы, зняў незамкнёны замок з уваходных дзвярэй. У доме знайшоў кашалёк, з якога забраў 700 тысяч рублёў. Прыхапіў і складны нож коштам 400 тысяч рублёў.

На судзе гаспадар расказаў, што нож яму падарыла дачка. Купляла яна яго за 40 долараў (400 тысяч рублёў).

30 кастрычніка ў вёсцы Заскавічы ён, зноў жа ў нецвярозым стане, скраў ноччу з незамкнёнага гаража ровар коштам 800 тысяч рублёў.

На наступны дзень сын гаспадыні ровара па слядах пратэктара прыйшоў у вёску Вяжуці, але яго там не знайшоў. Пазней патэлефанавала жонка абвінавачанага і сказала, што знайшла ровар. Яго вярнулі, і ў гаспадыні ніякіх прэтэнзій няма.

На судзе абвінавачаны спачатку адмовіўся прызнацца ў першым крадзяжы ў вёсцы Вяжуці, але потым вярнуў нож гаспадару. Грошы так і не аддаў.

Мужчына гадуе малалетняе дзіця, жонка цяпер цяжарная.

Суд прыгаварыў яго да шасці месяцаў арышту. Таксама мужчыну будуць прымусова лячыць ад хранічнага алкагалізму.

Абвінавачанаму далі тры месяцы, каб ён вярнуў 700 тысяч рублёў пацярпеламу.

**Вадзім БЯРОЗКІН, памочнік пракурора Маладзечанскага раёна.**

ВЫШУК

## Шукаем жыхара Ашманшчыны Віктара Рыбака

**АШМЯНЫ. Віктар Мікалаевіч Рыбак, жыхар і ўраджэнец станцыі Ашмяны, 1955 года нараджэння, у верасні гэтага года выйшаў з дому (вул. Ашмянская, 14) у невядомым кірунку і да гэтага часу не вярнуўся.**

**Прыкметы зніклага:** мужчыну на выгляд 60 гадоў, рост каля 160-165 см, худога целаскладу, твар ромбападобны, бледны, плечы прыўзнятыя, лоб сярэдні, адхілены назад, вушы трохвугольныя, вочы блакітныя.

**Мяркуецца, што быў апрануты** ў світэр чырвоны, штаны чорныя, магчыма пры сабе меў вядро.

Калі ласка, калі маеце карысную інфармацыю, то паведамляйце ў Ашмянскі РАУС **(801593-4-44-42)** або ў Ашмянскі раённы аддзел Следчага камітэта **(801593-712-48)**

**Ашмянскі РАСК.**



ПРАКУРАТУРА, СУД

## Недагледзеў за работнікамі і атрымаў 30 мільёнаў штрафу

**АСТРАВЕЦ. Старшы майстар на будаўнічым аб'екце паклаў на будаўнічую рашотку, якая знаходзілася над печкай-буржуйкай, балоны з мантажнай пенай, забыўся пра іх, а тыя ўзарваліся. Цяпер суд вынес яму прыгавор.**

Здарэнне адбылося амаль два гады таму 28 студзеня 2010 года. Прыкладна апоўдні на будаўнічым аб'екце ў вёсцы Варняны людзі пачулі выбух, а пасля ўбачылі полымя.

Як потым стала вядома, усё адбылося з-за васьмі балонаў, якія старшы майстар, 55-гадовы жыхар вёскі Варняны, паклаў сушыцца над печчу ў вагончыку-бытоўцы.

Звычайна будаўнікі прыходзілі туды пагрэцца ці паабедаць і крыху адпачыць.

Балоны былі з мантажнай пенай. Яны замерзлі, і пена адтуль ішла дрэнна, таму вырашылі іх крыху размарозіць.

Адлегласць ад рашоткі, на якую паклалі балоны, да печкі-буржуйкі складала не так і мала, 34 сантыметры. Але яны праляжалі там занадта доўга і ад перавышэння тэмпературы ўзарваліся. Ад гэтага загарэўся і вагончык-бытоўка, у якім на той час знаходзіўся электрык.

Калі ён выбягаў з ахопленай полымем бытоўкі, ад агню і мантажнай пены, якая разляталася ў розныя бакі, атрымаў апёкі твару, рук, вачэй.

Абвінавачаны сваю віну не прызнаў. Ён сказаў, што даручыў зняць балоны свайму работніку, а той забыўся.

Суд прызнаў старшага майстра вінаватым у парушэнні правілаў пажарнай бяспекі і прызначыў яму штраф 30 мільёнаў рублёў.

Таксама абвінавачанаму трэба выплаціць 2 мільёны 150 тысяч рублёў пацярпеламу ад пажару.



Фота fas.org.

Старшы майстар хацеў падагрэць балоны з мантажнай пенай, а атрымаўся выбух.

**Анастасія ЮРКОЙЦЬ, памочнік пракурора Астравецкага раёна.**

ПРАКУРАТУРА, СУД

## Сёмая судзімасць 20-гадовага валожынца – на сем гадоў

**ВАЛОЖЫН. Адбыўся суд па справе 20-гадовага валожынца, які падазраваўся ў разбоі.**

Пастановай суда прызначанае пакаранне ў выглядзе сямі гадоў пазбаўлення свабоды. Рашэнне пакуль не ўступіла ў законную сілу, паведаміў **Андрэй Жукоўскі**, памочнік пракурора Валожынскага раёна.

У чатыры гадзіны раніцы 27 верасня хлопец пагрукаў у дзверы да 80-гадовых жыхароў вёскі Чартавічы. Зайшоў у дом з нажом і запатрабаваў грошы. Гаспадары аддалі хлопцу 240 тысяч рублёў.

Да гэтага выпадку 20-гадовы хлопец ужо меў шэсць судзімасцяў. Паводле заключэння судовай псіхолага-псіхіятрычнай экспертызы, падазраванаму неабходнае прымусовае лячэнне ад алкагольнай залежнасці.

Падрабязней пра гэты выпадак можна прачытаць у артыкуле "Бабка, давай мільёны" ў №50 за 2012 год ці на сайце rh.by.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

АСЦЯРОЖНА: ЧЫГУНКА!

## Чатыры чалавекі загінулі на чыгуначных пуцях

**МАЛАДЗЕЧНА. Следчы камітэт расказвае пра здарэнні мінулага года.**

Усе чатыры няшчасныя выпадкі адбыліся ноччу.

У адным здарэнні загінулы пакутаваў на псіхічнае захворванне, а ў трох іншых пацярпелыя былі нецвярозыя. Гэта і стала асноўнай прычынай трагедый.

### Здарэнні ў Новы год

Два з чатырох выпадкаў адбыліся з 1 па 6 студзеня, калі людзі яшчэ святкуюць Новы год.

### Загінуў на вачах унука

Каля 19 гадзін 6 студзеня на пуцях загінуў маладзечанец. Ён пераходзіў па пешаходным насціле каля прыпыначнага пункта "Крыніца" разам са сваім малалетнім унукам. Мужчына пасліznуўся і ўпаў на пешаходны насціл, а падняцца ўжо не змог, бо быў моцна п'яны. Яго збіў цягнік, які якраз у гэты момант праязджаў каля Крыніцы. Мужчына загінуў на месцы здарэння.

Калі на яго наязджаў цягнік, унук знаходзіўся побач, але, на шчасце, не пацярпеў.

Хочацца звярнуць увагу жыхароў Маладзечаншчыны, што калі вы пераходзіце чыгуначныя пуці, будзьце пільныя. Пераходзьце толькі ва ўсталяваных для гэтага месцах. І перш чым перайсці, упэўніцеся, ці не ідзе цягнік.

**Юры БАГУШЭВІЧ, следчы Маладзечанскага раённага аддзела Следчага камітэта Беларусі.**

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Калі цёмна – будзьце пільныя

**АСТРАВЕЦ. СМАРГОНЬ. Раніцай 26 снежня пацярпелі пешаходы, у якіх не было флікера. Яны былі незаўважныя ў цемры на фоне шэрага асфальту.**



У пачатку дзявятай гадзіны ў Астравецкім раёне аўтацягнік МАЗ збіў пенсіянерку. Кіроўца аб'язджаў "Фольксваген", які стаяў на правай абочыне, і не заўважыў жанчыну, якая ішла ўздоўж дарогі па праезнай частцы насустрач руху транспарту.

Цяпер яна ў рэанімацыі.

## У Смаргоні машына збіла дзяўчынку

Ужо вечарэла, калі 10-гадовая дзяўчынка перабягала вуліцу Савецкую. Яна ўбачыла маршрутны аўтобус і імкнулася паспець на яго.

У гэты час кіроўца аўтамабіля "Саманда" спыніўся перад пешаходным пераходам, каб прапусціць людзей. Потым паехаў далей, але ў дзесяці метрах ад пераходу раптам на дарогу выскачыла дзяўчынка. Яна так спяшалася, што не заўважыла машыну.

Дзяўчынка шпіталізавана.

**Паводле Гродзенскай дзяржаўтаінспекцыі.**

■ НОВЫ ГОД

# Як я бы~~ў~~ла Дзедам Марозам



**МАЛАДЗЕЧНА. Свае патаемныя жаданні людзі звычайна трымаюць пры сабе. На тое яны і патаемныя. І толькі для аднаго чалавека, дакладней, казачнага персанажа, робіцца выключэнне. Перад Дзедам Марозам сваю душу раскрываюць і дзеці, і дарослыя. А раптам спраўдзіцца?**

Вядома, даведвацца пра чужыя сакрэты не вельмі добра, але ўсётакі я пераапранулася ў чароўнага дзядулю. Шпацыруючы па вуліцах Маладзечна, я дарыла маладзечанцам цукеркі, выслухоўвала іх жаданні і адчувала сябе вельмі папулярнай персонай.

### Барада вельмі колецца

Дзедам Марозам стаць даволі проста. Тым больш калі ёсць футра, шапка, барада, рукавіцы і мяшок. Але як жа колецца гэта штучная барада! А яшчэ галава ад парыка чэшацца, і мне было зусім некамфортна. Трэба сказаць, што ў футры Дзеда Мароза вельмі горача, ды і шапка з футравым атачэннем пастаянна наязджае на вочы. Прыйшлося цярпець. Такая ўжо доля ў Дзеда Мароза.

### Падарожжа Дзеда Мароза

Маё "падарожжа" да цэнтра горада не засталося без увагі з боку людзей, а таксама і аўтамабілістаў. Кіроўцы на ўсю моц сігналілі і ветліва махалі мне рукамі.

Маладзечанцы ўсміхаліся, маладыя мамы паказвалі сваім дзецям Дзеда Мароза. Тыя чамусьці бянтэжыліся і прыціскаліся да бацькоў. Але глядзелі на мяне з цікавасцю. Не кожны ж дзень на вуліцы ўбачыш навагодняга чараўніка.

Хачу адзначыць, што многія дзеці ўжо падрыхтаваныя да Новага года. Вершыкі пра зіму, Дзеда Мароза і ёлачку расказвалі мне сходу. А адна маленькая дзяўчынка расказала мне вершык, у якім папрасіла, каб Дзед Мароз падарыў ёй машыну БМВ-Х5. Шкада, канешне, што мой чырвоны мяшок быў забіты абаранкамі, цукеркамі і яблыкамі.

### "Дзед Мароз, а ты замужам?"

Маладзечанцы з радасцю расказвалі мне вершыкі, пелі песні, выказвалі свае пажаданні. Радасныя эмоцыі атрымлівалі не толькі яны, але і я сама.

Самым распаўсюджаным вершыкам сярод маладзечанцаў была песня "В лесу родилась ёлочка". Яе выконвалі ўсе па розназму: хто вершыкам расказваў, хто пеў.

Адзін хлопец, які распазнаў, што Дзед Мароз – гэта маладзенькая дзяўчына, спытаў у мяне: "Дзядуля Мароз, а ты замужам?"

Людзі вельмі здзіўляліся, калі бачылі, што Дзед Мароз не мужчына, а маладая дзяўчына. Адзін хлопец прапанаваў мне расказаць вершык не за цукеркі і яблыкі, а за нумар мабільнага тэлефона Дзеда Мароза.

Аднак мяшок з падарункамі хутка стаў пусты. Працоўны дзень Дзеда Мароза скончаны. Пад сігналы кіроўцаў і ўсмешкі маладзечанцаў я вярнулася ў рэдакцыю.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**



Фота Настассі РОЎДА.

**Самым распаўсюджаным вершыкам сярод маладзечанцаў была песня "В лесу родилась ёлочка".**

■ АПЫТАННЕ НОСЬБІТАЎ ПРОЗВІШЧА МАРОЗ

## Ці палохаецеся вы, калі зімой людзі выходзяць на вуліцу і кажуць "Ух, які мароз!"?



**Святлана Мароз, страхавы агент, Валожын:**

– Не, не палохаюся. Што датычыцца майго прозвішча, у мяне нават выраз любімы ёсць: "Мароз па скуры бегае". Хай тыя палохаюцца, па кім гэты "мароз" бегае!



**Вольга Мароз, студэнтка, Вілейка:**

– Не. Мяне такія воклічы ўвогуле не палохаюць.



**Наталля Мароз, дыспетчар, Маладзечна:**

– Так, з надыходам зімы колькасць жартаў у мой бок павялічваецца. У школьныя гады аднакласнікі прысвячалі мне песню "Ой, мороз, мороз…". Цяпер жа з надыходам моцных маразоў мне кажуць: "Супакойся!"



**Сяргей Мароз, выкладчык фізкультуры, Маладзечна:**

– Не, не шарахаюся. Адразу ўспамінаю радок з верша "Однажды в студеную зимнюю пору я из лесу вышел – был сильный мороз…" і адчуваю сябе моцным і магутным.



**Мікалай Мароз, навучэнец, Вілейка:**

– Вядома, палохаюся. На маю думку, любое надвор'е па-свойму добрае. Я, напрыклад, люблю добры зімовы марозік.



**Ігар Мароз, тэхнічны рэдактар "Рэгіянальнай газеты", Вілейка:**

– Палохаць няма чым! Я заўсёды ведаю, якая тэмпература на вуліцы, бо сачу за надвор'ем па тэрмометры. Таму ўсім тым, хто скардзіцца на сцюжу, магу сказаць: "Ці сапраўды ўжо такі мароз на двара?".



**Уладзіслаў Мароз, студэнт, Маладзечна:**

– Ой, не пужаюся! Чаго тут пужацца? Справа ў тым, што за 21 год свайго жыцця я ўжо прывык чуць слова "мароз". Таму я і не ўспрымаю яго на свой рахунак.

**Падрыхтавалі навучэнцы школы маладога журналіста.**



■ ГЭТА ЦІКАВА!

## Незвычайныя спосабы прадоўжыць жыццё

**Агульнавядома, што курэнне і алкаголь скарачаюць жыццё, а фізкультура – падаўжае. Але гэта далёка не ўсе фактары.**

Напрыклад, ці ведаеце вы, што прыгожы краявід з акна падаўжае ваша жыццё на пару гадоў, а заніжаная самаацэнка – укарочвае гадоў на сем?

Дакладна ўстаноўленыя фактары, якія **добра ўплываюць** на ваша жыццё:
– наяўнасць хатніх жывёл: +2 гады
– замужжа (жаніцьба): +7 гадоў
– пазітыўны настрой: +9 гадоў
– рэлігійнасць: +7 гадоў

Фактары, якія **адмоўна ўплываюць** на ваша жыццё:
– беспарадак у доме: –1 год
– павышаны ўзровень шуму: –1 год
– развод: –3 гады
– дрэнная пастава: –2 гады
– недасыпанне: –5 гадоў

**Проста МАРЫЯ.**

ХАРЧАВАННЕ

# Водарасці ў талерцы



Фота Настассі РОЎДЫ.

Прывучайце дзяцей да водарасцяў змалку. Гэта карысна.

**Многія беларусы прывыклі думаць пра водарасці як пра тое, што павінна знаходзіцца ў морах ці акварыумах, але ніяк не на кухонным стале. Але марскія расліны могуць дапамагчы ва ўмацаванні нашага здароўя.**

– На ўсёй тэрыторыі нашай краіны вельмі мала ёду, – кажа дыетолаг **Ганна Белавусава**. – Дактары часта кажуць, што неабходны аб'ём гэтага мікраэлемента мы можам атрымаць з ёдаванай солі, грэчкі, хурмы і грэцкіх арэхаў. Так, для нас яны сапраўды з'яўляюцца асноўнымі крыніцамі ёду, але неабходную яго колькасць з гэтых прадуктаў атрымаць цяжка. А вось у водарасцях ёду надзвычай шмат, прычым з іх ён лёгка засвойваецца і хутка перапрацоўваецца арганізмам.

## Ад водарасцяў не схавацца

Часта водарасці адбіваюць жаданне есці адным сваім выглядам: яны маюць зялёны ці карычняваты колер, бясформенную кансістэнцыю. Але нават пры катэгарычнай адмове ад водарасцяў у рацыёне ніводны з нас не можа сцвярджаць, што ніколі ў жыцці не каштаваў іх.

Справа ў тым, што водарасці – абавязковы складнік многіх прадуктаў. Агар-агар ці карагінан, якія атрымліваюць з водарасцяў, ужываюцца пры вытворчасці мармеладу, зефіру, марожанага і некаторых малочных прадуктаў. Гэтыя кампаненты надаюць прадуктам неабходную кансістэнцыю і пры гэтым не дадаюць лішніх калорый.

Да таго ж часта водарасці ўваходзяць у склад касметыкі. Не толькі розных крэмаў для догляду скуры, але і тушы, памады, ценяў.

## У водарасцях – палова табліцы Мендзялеева

Асабліва карыснымі водарасці будуць для тых, чыя праца звязаная з нервовым напружаннем. Чым больш мы нервуемся – тым больш ёду патрэбна арганізму. Да таго ж акрамя ёду ў склад водарасцяў уваходзяць бор і бром, якія дапамагаюць супакоіцца і расслабіцца.

Важным з'яўляецца і селен. Ён дапамае адбівацца сотням рэакцый, што працякаюць у арганізме. Спіс карысных элементаў можна працягваць: жалеза, кальцый, магній, калій, марганец...

Не трэба забываць і аб тым, што водарасці – крыніца расліннага бялку, які лёгка засвойваецца арганізмам. Гэта акалічнасць набывае асаблівую важнасць для вегетарыянцаў, якія часта не атрымліваюць неабходную колькасць бялку.

Карысць водарасцяў зразумелі ўжо ў многіх краінах свету. У Італіі, Францыі, Вялікабрытаніі водарасці пачалі разводзіць штучным спосабам, нягледзячы на тое, што гэтыя краіны маюць выхад да мора.

## "А што, водарасці бываюць розныя?"

Для таго, каб зразумець, што водарасці – не самы хадавы тавар у нашых крамах, дастаткова прайсціся па найбуйнейшых гандлёвых цэнтрах Маладзечна.

Ва ўсіх крамах можна знайсці марскую капусту, ці, як яе называюць іначай, ламінарыю. Яе можна набыць асобна, а таксама ў складзе разнастайных салатаў. У некаторых крамах ламінарыю можна набыць на вагу. Яна бывае сушанай, замарожанай і кансерваванай. Сушаную часцей за ўсё набываюць у аптэках.

– Мы прадаём марскую капусту на вагу, – кажа тавараазнаўца крамы адной з гандлёвых сетак Маладзечна. – Не магу сказаць, што яна карыстаецца асаблівай папулярнасцю ў пакупнікоў. Так, від водарасцяў у нас толькі адзін. А што, яны бываюць розныя?

Насамрэч, у свеце налічваецца каля 20 відаў водарасцяў, якія прыдатныя для харчавання. З распаўсюджаных можна адзначыць фукус (альбо марскі дуб), парфіру, ульву (марская салата). Знайсці іх нават у сталічных крамах – нялёгкая задача.

Яшчэ адзін спосаб пакаштаваць водарасці ў нашым рэгіёне – набыць сушы. Для іх прыгатавання часта выкарыстоўваюцца тыя ж ламінарыі, але вялікімі, непарэзанымі кавалкамі. Менавіта ў іх найчасцей загортваюць рыбу і рыс.

Парады часцей ужываць у ежу водарасці будуць карыснымі для ўсіх беларусаў. Для таго, каб ліквідаваць недахоп ёду, неабавязкова бегчы ў аптэку. Часам дастаткова пачаць з ламінарыі.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

## Паўсядзённыя стравы з водарасцямі

**Бутэрброды з сушанай ламінарыяй**

Такія бутэрброды можна гатаваць на кожны дзень.

Для гэтага неабходна здрабніць сушаную марскую капусту, дадаць яе ў мяккае масла і пасаліць. Атрыманую масу намазаць на хлеб і на некаторы час паставіць у халадзільнік.

**Водарасці замест солі**

Сушаную ламінарыю альбо фукус можна здрабніць і дадаваць у стравы замест солі. Дадаўшы такую прыправу да рысу, салаты, супу, вы адчуеце саланаваты смак, а таксама лёгкі пах ёду.

Адзіная заўвага: дадаваць водарасці трэба ў гатовую страву, каб яны захавалі свае карысныя ўласцівасці. Да таго ж дыетолагі не рэкамендуюць спалучаць водарасці з капустай, кукурузай і гарчыцай: гэтыя прадукты перашкаджаюць арганізму засвойваць ёд.

**Салата з марской капустай**

Ламінарыя традыцыйна ўжываецца для прыгатавання салатаў. Вашай увазе – адзін з іх.

Для прыгатавання спатрэбіцца балгарскі перац, памідоры, цыбуля і марская капуста. Усе прадукты парэзаць і змяшаць, пасля заправіць алівкавым алеем з лімонным сокам.

НАШЫ ГРОШЫ

# Змяняюцца ўмовы разліку пры гандлі

**З мэтай павышэння эфектыўнасці кантролю за грашовым абаротам у сферы гандлю і паслуг 11 снежня 2012 прынятая пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь і Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь №1139/16 "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў ў пастанову Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь і Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь ад 6 ліпеня 2011 года №924/16" (далей – пастанова №1139/16).**

У адрозненне ад раней дзейснага парадку прынятай пастановай пашыраюцца выпадкі абавязковага выкарыстання касавага абсталявання пры ажыццяўленні:

- рознічнага гандлю таварамі ў гандлёвых аб'ектах сістэмы спажывецкай кааперацыі, размешчаных у сельскіх населеных пунктах, з колькасцю два-тры прадаўцы (акрамя ажыццяўлення рознічнага гандлю ў такіх аб'ектах адным прадаўцом);
- рознічнага гандлю на гандлёвых месцах на рынках запаснымі часткамі да аўтамабіляў;
- развазнога гандлю таварамі;
- гандлю па ўзорах з дастаўкай тавараў на дом ці іншае абумоўленае месца;
- аказання бытавых паслуг (права аказання бытавых паслуг без прымянення касавага абсталявання і (або) плацежных тэрміналаў захаванае толькі ў дачыненні аб'ектаў, размешчаных у сельскіх населеных пунктах).

Пастановай №1139/16 паменшанае парогавае значэнне цаны адзінкі нехарчовага тавару, які прадаецца коштам ад трох да адной базавай велічыні, выходзячы з якой вызначаецца ўзнікненне абавязку ў суб'ектаў прадпрымальніцкай дзейнасці ва ўстаноўленых выпадках афармляць кожны факт прыёму наяўных грашовых сродкаў дакументам з пэўнай ступенню абароны.

Для стварэння спрыяльных умоў па ажыццяўленні разлікаў у безнаяўным парадку пашыраецца шэраг аб'ектаў гандлю і паслуг, якія падлягаюць абсталяванню плацежнымі тэрміналамі для рэгістрацыі аперацый, што праводзяцца з выкарыстаннем банкаўскіх плацежных картак, наступнымі аб'ектамі:

- рознічнымі гандлёвымі аб'ектамі, размешчанымі ў капітальных пабудовах (будынках і збудаваннях), за выключэннем тых, якія адносяцца да перасоўных сродкаў разноснага гандлю, а таксама гандлёвых аб'ектаў сістэмы спажывецкай кааперацыі, размешчаных у сельскіх населеных пунктах, у якіх продаж тавараў ажыццяўляе адзін прадавец;
- стацыянарнымі гандлёвымі аб'ектамі грамадскага харчавання (за выключэннем аб'ектаў, размешчаных ва ўстановах агульнай сярэдняй адукацыі, установах прафесійна-тэхнічнай адукацыі, спецыяльных агульнаадукацыйных школах (спецыяльных агульнаадукацыйных школах-інтэрнатах);
- аб'ектамі бытавога абслугоўвання насельніцтва (за выключэннем аб'ектаў, размешчаных у сельскіх населеных пунктах, з колькасцю работнікаў, якія непасрэдна аказваюць бытавыя паслугі, не больш за трох чалавек у адну змену);
- касавымі заламі станцый метрапалітэна.

Акрамя таго, памяншаюцца ў два разы парогавыя значэнні выручкі з 15000, 30000 і 7500 базавых велічынь да 7500, 15000 і 3750 базавых велічынь адпаведна, пры якіх узнікае абавязак ўстаноўкі плацежных тэрміналаў.

З улікам работы, якая праводзіцца па ўдасканаленні механізму кантролю за прыёмам наяўных грашовых сродкаў з выкарыстаннем касавага абсталявання, у мэтах скарачэння выдаткаў суб'ектаў гаспадарання на замену касавага абсталявання тэрмін па замене касавага абсталявання, зарэгістраванага ў падатковым органе, па заканчэнні шасці гадоў з даты іх першай рэгістрацыі падаўжаны да 2015/10/01.

Пастанова №1139/16 у частцы змянення парадку выкарыстання касавага абсталявання і аплатных тэрміналаў уступае ў сілу праз шэсць месяцаў пасля яго афіцыйнага апублікавання, а менавіта з 2013/06/16. Суб'ектам прадпрымальніцкай дзейнасці неабходна загадзя правесці работу па набыцці і ўсталяванні касавага абсталявання і плацежных тэрміналаў.

Упраўленне кантролю за падаткаабкладаннем індывідуальных прадпрымальнікаў і фізічных асоб інспекцыі МПЗ Рэспублікі Беларусь па Маладзечанскім раёне, тэл. 772830.

**Сяргей КУКЕЛЬ,**
**намеснік начальніка інспекцыі – начальнік упраўлення кантролю за падаткаабкладаннем індывідуальных прадпрымальнікаў і фізічных асоб.**

• **АНТЫКВАРНЫ МАГАЗІН. ПАКУПКА, ПРАДАЖА, КАМІСІЯ СТАРАДАЎНІХ РЭЧАЎ:** манеты, гадзіннікі, медалі, мэбля, карціны, самавар, значкі, статуэткі, сцягі і шмат іншага, магчымы выезд. Г.Маладзечна, вул.Б.Хмяльніцкага, 6, каля харчовага рынку. ЧТУП "Эмілія Трэйд". УНП 691402887. Т. (8-029) 5744744, 702247.*

• **СТАРАЖЫТНЫЯ** карціны, іконы, манеты і іншае. Т. (8-029) 8719950.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Шкуркі куніцы, чарнабуркі, пясца. Т. (8-029) 8552646.*

**ЗГУБЛЕНА**

• Калі хто знайшоў летась залаты пярсцёнак з каштоўнымі камянямі 17 памеру ў маладзечанскай раённай бальніцы, у холе, перад гардэробам, прашу вярнуць за ўзнагароду. Т. (8-029) 7445746.

**ІНШАЕ**

• **БЕЛАРУСКІ ТРЫКАТАЖ!** Адзенне дзіцячае, маладзёжнае, для дарослых ад ніжняй бялізны да паліто. Вул.Б.Хмяльніцкага, 6, каля харчовага рынку, штодня, пн-пятніца з 9.00-да 18.00, субота, нядзеля з 9.00 да 15.00. ЧТУП "Эмілія Трэйд". УНП 691402887. Т. 702247.*

• **НОВЫ МАГАЗІН "МЕГАСТРОЙ".** Усё для будаўніцтва і рамонту, г.Маладзечна, вул.Валынца, 12-б. Штодня, без перапынку з 9.00 да 19.00. ЧТУП "МегаСтройопт". УНП 690548998. Т/факс: (8-0176) 702804.*

**ПРАЦА**

**ПАТРАБУЮЦЦА**

• ДУА "Гарадзілаўская сярэдняя школа" патрабуецца вадзіцель катэгорыі Д для перавозкі дзяцей. УНП 601058167. Т. (8-0176) 725372, (8-029) 1295099.*



■ **НОВЫ ГОД**

# Ёлкі з пап'е-машэ і каласкоў зрабілі мядзельскія дзеці

**МЯДЗЕЛ. Незвычайныя ёлкі падрыхтавалі вучні Мядзельшчыны на выставу-конкурс "Лёд. Кветкі. Фантазія".**


Трапічная ёлка.

Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Яе праводзіць рэспубліканскі эколага-біялагічны цэнтр. У намінацыі "арт-ёлка" яны прадставілі навагоднія прыгажуні з каласкоў, шарыкаў з пенапласту ды іншага матэрыялу.

Гуртакоўцы Цэнтра творчасці дзяцей і моладзі зрабілі ёлку з прыроднага матэрыялу: выкарысталі жалуды, каштаны, шышкі, засушаныя кветкі.

Арыгінальнай атрымалася ёлка ў вучняў мядзельскай сярэдняй школы №1. З пап'е-машэ яны зрабілі трапічную ёлку, на якой пасялілілі экзатычных птушак. Назвалі выраб "Ёлка выканання жаданняў".

Гэтыя ёлкі ўдзельнічаюць у абласным этапе выставы-конкурсу "Лёд. Кветкі. Фантазія".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**





УСПАМІНЫ

# “Ніколі не смяяўся да слёз, як у вячэрняй школе!”



Фота забяспечана Львом ЧЫРВОНЦАВЫМ.

Вілейка, 1960 год. У другім радзе, трэцяя злева, стаіць Мая Ількевіч, а трэці справа – Леў Чырвонцаў. Ён больш нікога не памятае, таму, калі вы каго-небудзь ведаеце, звяртайцеся ў рэдакцыю.

**МАЛАДЗЕЧНА. Хутка зачыняць вячэрнюю школу. А як чэрпалі веды тыя, каму перашкодзіла вайна. Пра гэта расказаў выпускнік вілейскай вячэрняй школы Леў Чырвонцаў.**

**– Чаму вы пайшлі вучыцца ў вячэрнюю школу?**

– Вайна перашкодзіла многім давучыцца ў школе. Гэта быў 1952 год. Працаваць я пайшоў з 15 гадоў на Вілейскую хімічную лясную гаспадарку (у той час яна была Маладзечанскай). Лічыўся грузчыкам, а быў слесарам па рамонце аўтамабіляў, – кажа Леў Чырвонцаў. – Пасля вайны ў многіх не было сярэдняй адукацыі, а цяга да вучобы ў той час была вялікая. Таму вырашыў, што буду вучыцца ў вячэрняй школе.

**– Як вучыліся ў той час?**

– Пасля вайны працавалі ўсе. Менавіта я працаваў да шасці вечара. Заняткі пачыналіся з 19.00 і да апоўначы. Вучыцца было складана, таму што працаваў яшчэ і па суботах. Урокі дадзіліся рабіць толькі ў нядзелю.

**– А час на адпачынак?**

– Тады некаторыя ленаваліся. Ну што ж тут скажаш, маладосць ёсць маладосць. І пагуляць хацелася. І ў кіно схадзіць хацелася. Гэта ж не тое, што цяпер! Калі ў кінатэатры паказвалі цікавы фільм, то ўсе ішлі не ў школу, а ў кіно. Дырэктар вячэрняй школы гэта добра ведаў і пільнаваў вучняў каля кінатэатра.

Ніколі да слёз так не смяяўся, як на канцэрце ў вячэрняй школе. Ён быў прысвечаны нейкаму святу, можа Кастрычніцкай рэвалюцыі. Тады ж самадзейнасцю займаліся. Хто што спяе, тое і добра. Дык вось пелі нейкую занадта модную песню на той час. Яна выконвалася на беларускай мове і такая пратяжная была, аж з нейкім завыццём. Так смешна гучала, што я смяяўся да слёз.

**– Хто вучыўся разам з вамі ў школе?**

– Вучыцца трэба было кожнаму, каб атрымаць дакумент аб сярэдняй адукацыі. Былі вучні і па 40-45 гадоў. Са мной вучыўся і начальнік турмы, і начальнік вілейскага вакзала. Я тады зусім малы быў, 15-гадовы хлопчык. Калі мы пачыналі гаманіць, старэйшыя хутка нас на месца ставілі.

Ведаю яшчэ **Часлава Лемеша**, які ад вучня вячэрняй школы прайшоў шлях да намесніка старшыні Вілейскага райвыканкама. Пасля заканчэння школы паступіў у політэхнічны тэхнікум, а потым скончыў інстытут народнай гаспадаркі.

**– Пасля выпускнога вы з кім-небудзь бачыліся?**

– Вучылася са мной дзяўчынка **Мая Ількевіч**. Ведаю, што пасля заканчэння вячэрняй школы яна выйшла замуж і пераехала жыць у Маскву.

Летась я адпачываў у санаторыі пад Барысавам. Падыходзіць да мяне нейкая жанчына і кажа: “Недзе я вас бачыла! Можа, на Рыжскім моры? – А можа, у Вілейцы?”

**– Памятаеце сваіх настаўнікаў?**

– Добра памятаю іх прозвішчы. Дырэктарам быў **Іван Рынкевіч**, які яшчэ і хімію выкладаў. Я і цяпер валентнасць добра памятаю. Памятаю настаўніцу беларускай мовы і літаратуры. Яна заўсёды імкнулася як мага больш расказваць пра паэзію Янкі Купалы і Якуба Коласа. Выкладала, як магла, але, шчыра кажучы, мы яе не зусім задавальнялі сваімі ведамі. Амаль усе настаўнікі працавалі не толькі ў школе, занятакі ж пачыналіся толькі вечарам. Адпрацуюць дзень на рабоце, а потым змораныя прыходзяць у школу выкладаць. Канешне, не заўсёды ў настаўнікаў гарэлі вочы, але яны стараліся, як маглі.

Мой брат таксама вучыўся ў вячэрняй школе, яму так спадабалася фізіка, што пасля заканчэння школы паступіў у ВНУ на фізічны факультэт.

**–Ці трэба вячэрняя школа ў наш час?**

Я лічу, што 8 класаў кожны павінны скончыць у звычайнай школе. А потым здаваць магчымасць здаваць некаторыя школьныя прадметы экстэрнам, каб чалавек змог атрымаць дакумент аб сярэдняй адукацыі. У жыцці бываюць розныя абставіны. Цяпер, у час інтэрнэта, можна самастойна засвоіць амаль любую навуку. Таму вячэрняя форма вучобы павінна быць.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

АРХІТЭКТУРА

# Каля вілейскай ЖКГ усталявалі скульптуру дворніка

**ВІЛЕЙКА. Скульптура дворніка ўсталяваная каля ўвахода на прадпрыемства “Вілейская жыллёва-камунальная гаспадарка”. Адкрыццё адбылося ў чацвер, 27 снежня.**



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Скульптура дворніка павінна нагадваць вілейчукам, што чыста там, дзе не смецяць.

Аўтар скульптуры – супрацоўнік вілейскай ЖКГ **Валеры Апарык**. Гэта ўжо трэцяя гарадская скульптура, зробленая рукамі супрацоўніка ЖКГ. Горад ужо упрыгожваюць выявы вожыка і лесавіка.

Скульптар прызнаецца, што ініцыятарам і генератарам ідэі стаў дырэктар вілейскай ЖКГ **Віктар Паўлоўскі**.

Валеры Апарык патлумачыў, чаму менавіта дворнік стаў сімвалам ЖКГ:

– Задачы ЖКГ заўсёды былі аднолькавыя: забеспячэнне чысціні, парадку на вуліцах, добраўпарадкаванне. Таму менавіта дворнікі сімвалізуюць нашу службу.

– З дворнікаў жа жыллёва-камунальная гаспадарка і пачыналася, – пагадзіліся самі дворнікі вілейскай ЖКГ. – Раней былі амаль адны дворнікі. Нам вельмі прыемна, што нашу працу заўважылі і адзначылі. Сярод нашых калег вельмі мала мужчын, хаця праца цяжкая, асабліва зімой. Жаночай яе не назавеш. Хочацца, каб гараджане больш паважалі нашу працу. І калі ўжо не могуць не смецiць, то хай бы хоць не ламалі нічога, як гэта не адзін раз было на Вілляніным хутары. Дарэчы, часцей смеціць моладзь.

– Мы не бачым іх працу, а толькі яе вынік, – распавёў Валеры Апарык. – Мы настолькі прывыклі, што ўсюды чыста, таму гэта ўспрымаецца як норма. Падтрымліваць чысціню трэба не толькі за кошт таго, што нехта прыбірае, але і задумвацца над тым, што кожны з нас робіць свой невялікі ўнёсак у гэту агульную справу.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

**Больш фота і відэа на сайце**




# Пошта дапамагае здзяйсняць жаданні

*Заканчэнне. Пачатак на 1-й старонцы.*

### На гэты Новы год – сапраўдны паштовы бум

Падчас навагодніх святаў успамінаюць пра папяровую пошту не толькі дзеці. Актыўна віншуюць адзін аднаго з Калядамі і Новым годам усе жыхары рэгіёна.

– Столькі працы з сартаваннем навагодняй пошты, як сёлета, у нас ніколі не было! – здзіўляецца **Анжэла Макаравіч**. – Не ведаю, што зрабілася з нашымі людзьмі! У мінулым годзе віншаванняў было нашмат менш. Дасылаюць не толькі лісты і паштоўкі, але і пасылкі, бандэролі. Цяпер на пошце вялікія чэргі, усе хочуць паспець да святаў.

Зайшоўшы на цэнтральную пошту Маладзечна 28 снежня ў перадабедзенны час, лічу людзей ў чарзе. Да двух акенцаў стаіць 29 ахвотных. Вядома, не ўсе з іх з лістамі і пасылкамі, але ўсё роўна лічба ўражвае.

– Апошнія дні наша паштовае аддзяленне за дзень апрацоўвае каля 900 лістоў і паштовак, – дадае **Вольга Антановіч**. – Асабліва актыўна віншуюць адзін аднаго арганізацыі і прадпрыемствы. Лісты ідуць і па Беларусі, і ў Расію, і ў далёкае замежжа.

Праца па сартаванні на цэнтральнай пошце Маладзечна пачынаецца а чацвертай раніцы. Ідзе ў дзве змены, да шасці вечара. Увесь гэты час супрацоўнікі пошты не застаюцца без працы. Такі наплыў лістоў і паштовак спініцца толькі ў сярэдзіне студзеня.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

ВАНДРОЎКІ

# Масква, Кіеў і Беласток – па тры дзівосы з кожнага горада





Фота photofm.ru.

У маскоўскіх заторах можна прастаяць некалькі гадзін.



Фота Ігара МАРОЗА.

Галоўная вуліца Кіева – Хрышчацік. Тут прадаюць смажаныя каштаны.



Фота travel.by.

У Беластоку выгадна купляць адзенне нават у буйных крамах і буціках.

**Трое карэспандэнтак "РГ" адначасова былі ў трох гарадах суседніх з намі краін. Кожная расказала пра тры рэчы, якія найбольш здзівілі.**

## Кіеў

### Двайныя пакецікі для каштанаў

Галоўная васьміпалосная вуліца горада Хрышчацік на выхадныя становіцца пешаходнай.

На тратуары размяшчаюцца гандляры, якія прапануюць бліны, сувеніры і нават смажаныя каштаны. Каштаны прадаюць ў двайных пакецiках – з адной паловы дастаеш каштан, а шалупіннe абіраеш і кідаеш у другую. Не тое каб каштаны былі вельмі смачнай ежай. А вось ідэя з двайнымі пакецікамі была б вельмі дарэчы вытворцам сланечнікавых семачак.

### Адзін паравозік на восем палос руху

Адзіны транспарт, які на выхадных працуе на Хрышчаціку, гэта "правозік", яго возіць трактар. Тут і з першым снегам не перастаюць працаваць атракцыёны.

Прычым яны не проста стаяць, а ўвесь час ездзяць, нават калі няма пасажыраў. Тады дзеці абавязкова захочуць пракаціцца!

### Атракцыён у метро

Кіеўскае метро абавязкова здзівіць таго, хто ўпершыню наведаў горад. Калі спускаешся па эскалатары з вакзала ці з Хрышчаціка, то не бачыш канца – настолькі ён вялікі, што здаецца своеасаблівым атракцыёнам.

Да таго ж цягнікі пакатаюць не толькі пад зямлёй, але і пакажуць краявіды старажытнага горада.

У саміх вагонах метро заўсёды нешта прадаюць і спяваюць песні, як у нашых электрычках.

## Беласток

### Вар'ят у тэатры

Спектакль, на які я патрапіла, – дыпломная праца студэнткі тэатральнай акадэміі. І хоць пастаўлены ён па ўрыўку польскага класічнага твора "Кордыян", выкананы ў сучаснай інтэрпрэтацыі.

Мяне ўразіла, што некалькі акцёраў ігралі то карлікаў, то звычайных людзей. Выглядала гэта вельмі эфектна. Асабліва, калі трэба было выклікаць непрыязнае адчуванне.

Апошні акорд спектакля пакарыў мяне канчаткова. Галоўны герой па сцэнарыю вар'яцее. Ён спаўзае са сцэны і пачынае пералазіць праз крэслы ўсёй залы, на якіх сядзяць ашаломленыя гледачы. Паверце, эмоцыі незабыўныя.

### "Кохана моя"

Я заблудзіла ў начным Беластоку і таму прыйшлося прасіць дапамогі ва ўсіх, каго я сустракала.

Можа, мне проста пашчасціла, але ўсе, да каго я звярталася, дапамагалі мне, як сваёй сяброўцы ці дачцэ. І самае дзіўнае, што яны, калі тлумачылі мне, як куды дабрацца, ледзь не ў адзін голас з усмешкай паўтаралі: "О, кохана моя…".

Значыць гэта тое самае, што і ў нас. Але ж незнаёмыя людзі да мяне так яшчэ ніколі не звярталіся.

### Хадзячая рэклама

Крамаў у Польшчы больш, таму і рэклама пасур'ёзней.

Калі я шпацыравала па цэнтральнай вуліцы Беластока, мне было вельмі цікава назіраць за групай Дзядоў Марозаў. Яны ішлі насустрач разам з плакатамі і лістоўкамі. У аднаго з іх нават быў мікрафон, у які Дзед Мароз гучна распісваў усе перавагі нейкай крамы.

## Масква

### Нацыянальная разнастайнасць

Падлічыць колькасць нацыянальнасцяў, прадстаўнікі якіх сустракаюцца на вуліцах Масквы, – задача невырашальная. Прычым падзел нацыянальнасцяў па сацыяльным статусе відавочны. У кавярнях афіцыянтамі будуць людзі са славянскай знешнасцю, а прыбіральшчыкамі – з азіяцкай.

Падчас затораў на шырокіх маскоўскіх вуліцах да кіроўцаў падыходзяць людзі азіяцкай знешнасці і прапануюць набыць мабільныя тэлефоны ці "незамярзайку".

А на слупах можна пабачыць аб'явы кшталту: "Шукаем афіцыянта. Пратрабаванні – грамадзянін Расіі або Беларусі".

### Савецкая архітэктура

Масква ўражвае будынкамі на цэнтральных вуліцах. Масіўныя фасады, тоўстыя сцены і абавязковыя калоны – усё гэта нагадвае пра савецкае мінулае горада.

Будынак знакамітага МХАТа (Маскоўскі мастацкі акадэмічны тэатр) уражвае сваёй змрочнасцю і агрэсіўнасцю. Чорны колер, груваcткі дах і вузкія вокны-шчылінкі. Чамусьці падалося, што будынак лепш бы падышоў для крэматорыя, чым для тэатра.

Тое, што горад быў заснаваны ў 17 стагоддзі, добра відаць у архітэктуры. Напрыклад, пабачыць гатычны стыль у архітэктуры Масквы немагчыма.

### Стаўленне да бяспекі

Кожны ўваход кожнага маскоўскага вакзала сустракае металашукальнікамі і нарадамі паліцыі. Масква не раз станавілася цэнтрам тэрарыстычных выбухаў, таму бяспека выходзіць на першы план.

Праверка дакументаў на вуліцы – таксама звыклая справа. Дасведчаныя знаёмыя параілі не выкідаць білет да Масквы, а зваротны насіць з сабой. Пры праверцы дакументаў гэта дапаможа даказаць, што ты не з'яўляешся нелегальным мігрантам без рэгістрацыі.

**Зоя ХРУЦКАЯ, Настасся РОЎДА, Аляксандра ПАРАХНЯ.**

## За чым можна прыехаць у Маскву, Кіеў і Беласток:

– У **Маскве** кошты на прадукты паўсядзённага ўжытку прыкладна такія, як у Беларусі. Напрыклад, кубачак кавы ў звычайнай кавярні абыдзецца ў 80 расійскіх рублёў (каля 20 тысяч беларускіх), талерка супу – каля 70 расійскіх.

Тэхніка каштуе танней: за мабільны тэлефон у Маскве можна аддаць у два-тры разы менш, чым за адпаведны тэлефон у Беларусі. Наадварот дзейнічае гэтая схема ў дачыненні да беларускіх вырабаў: за знакамітую "Мілавіцу" масквічы выкладваюць у 2-3 разы больш грошай, чым беларусы.

– **Кіеўскія** цэны нанашмат адрозніваюцца ад беларускіх. Да таго ж вельмі зручна лічыць – па цяперашнім курсе грыўня прыкладна роўная тысячы рублёў. Для гасцінцаў часцей набываюць спіртное, алей, цукеркі і, вядома ж, знакаміты кіеўскі торт.

– **Беласток** ідэальна падыходзіць для таго, каб прыехаць ды змяніць гардэроб. Польскія скідкі часам проста ўражваюць. Добрыя рэчы ў два ці тры разы танней – цалкам нармальна. Напрыклад, на дэмісезоннае футра, якое я цяпер купіла, была скідка 350 тысяч рублёў (больш, чым палова). Тое самае і з абуткам. Яшчэ тут можна выгадна набыць добрай кавы ці гарбаты.

ЦЭНЫ

# Што падаражэла пасля Новага года

**Ад 1 студзеня 2013 года ў Беларусі выраслі цэны.**

Адбылося чарговае павышэнне цэн на тытунёвыя вырабы.

### Алкаголь і аўтамабільнае паліва

Таксама ад 1 студзеня стаўкі акцызаў на спірт і алкагольную прадукцыю павялічыліся ў сярэднім на 35%, а на аўтамабільнае паліва – на 20%.

Стаўка акцызу на марачныя пладовыя віны павысілася на 34,6%.

У сярэднім на 34,5% павысілася стаўка акцызу на слабаалкагольныя натуральныя напоі, на 33,5% – на віны натуральныя, у тым ліку ігрыстыя і шампанскія, газіраваныя і шыпучыя, і на 34,5% – на віны пладова-ягадныя.

Акцызы на бензін і дызельнае паліва павышаныя на 20% у параўнанні з тымі, якія дзейнічалі ў канцы снежня.

### Падаткі на здачу кватэр

Ад 1 студзеня 2013 года выраслі стаўкі падаткаў на арэнду жылля ў Беларусі ў сярэднім у 1,2 раза.

Прычына павышэння – уступленне ў сілу змяненняў і дапаўненняў у Падатковы кодэкс.

Варта адзначыць, што акрамя падаражання тавараў і паслуг, беларусаў 1 студзеня чакала і прыемная навіна – з гэтага часу мінімальная заработная плата склала 1 мільён 395 тысяч рублёў.

### Паслугі ЖКГ

Павысіліся тарыфы і на паслугі ЖКГ, што замацавана ў пастанове Саўміна №1184 ад 21 снежня.

Згодна з дакументам, тарыфы на цеплавую энергію для ацяплення і гарачага водазабеспячэння выраслі на 5% – ад 60 140 да 63 150 рублёў за 1 Гкал.

Падняліся цэны і на электрычную энергію – на 9,5%. Таксама павялічыліся тарыфы на прыродны газ.

### Інтэрнэт і мабільная сувязь

З Новага года кошт інтэрнэта для абанентаў byfly вырас на 20%, як і ўсе астатнія паслугі сувязі, якія дае нацыянальны аператар электрасувязі "Белтэлекам".

Таксама на 20% падаражэлі паслугі мабільных аператараў.

**Аддзел інфармацыі.**

ГАРАСКОП-2013

# Не наступайце Змяі на хвост, і яна вас не пакрыўдзіць

2013

**Число 13, якое адпавядае нумару года, нясе ў сабе зусім не няшчасці, як думаюць недасведчаныя людзі. Число 13 – гэта прыкмета неардынарнасці, таленту, яно прынясе шчасце і гармонію.**

## Авен



Год фіялетавай Змяі спрыяе тым, хто будзе працаваць над сабой, мяняць да лепшага свае адносіны да людзей і да свету. Ганарлівасць будзе перашкаджаць развівацца, а 2013 год – выдатны час для самаўдасканалення, бо менавіта гэта і прынясе кардынальныя перамены нават у асабістае жыццё. Вам трэба часцей заставацца сам-насам, каб у цішыні і спакоі падумаць аб тым, чаго на самой справе вы хочаце, задумацца аб сваім жыцці, адмовіцца ад старых прывычак. Знайдзіце "дарогу да сябе", і вы станеце самім сабой, займееце ўнутраны спакой. Навучыцеся мастацтву кампрамісаў, каб не страціць каханага. Уціхамірце сваю гарачнасць і праяўляйце разважлівасць. Шчасце – у вашых руках. Не грэбуйце правіламі здаровага ладу жыцця. Беражыце страўнікава-кішачны тракт і печань. Адмоўцеся ад спажывання алкаголю. Знайдзіце яму замену – цікавае хобі, напрыклад.

## Цялец



Жыццё ў 2013 годзе будзе даваць нямала, але і патрабаваць будзе шмат. Развівайцеся духоўна, працуйце над сабой, жывіце з максімальнай аддачай, каб атрымаць цудоўныя вынікі. Нябесная сфера не застанецца ў даўгу. Год адкрывае вялікія перспектывы, удача прыходзіць з усіх бакоў. Творчасць, поспех у справах, любоў і сяброўства суправаджаюць вас з мінулага года. Радуйцеся падарункам лёсу і прымнажайце іх. Фіялетавая Змяя дапамагае працавітым і таленавітым. У многіх будзе папаўненне ў сямействе. Справы дзяцей выйдуць на першы план. Вы можаце ганарыцца імі. Не ўкладайце грошы ў тыя праекты, якія выклікаюць хоць маленькае сумненне. Будзьце разважлівыя, уважайце кожны свой учынак. 2013 год – час добра абдуманых рашэнняў. Хоць вы і будзеце поўныя сіл і сур'ёзныя хваробы будуць абыходзіць вас бокам, усё ж не будзьце легкадумныя адносна свайго здароўя.

## Блізняты



Рашучасць стане ў 2013 годзе вашым залатым крэда. Вас чакае адказны, вельмі важны і даволі прадуктыўны год. Фіялетавая Змяя ўнясе шмат перамен у ваша жыццё. Планеты будуць дапамагаць тым, хто будзе дзейнічаць, рухацца наперад без аглядкі. Пад уплывам мудрай Змяі ў вас праявяцца скрытыя творчыя здольнасці, дзякуючы якім павялічыцца дабрабыт, а вы станеце вядомыя. Шмат хто створыць свае найвялікшыя шэдэўры менавіта ў год Змяі. Вас чакаюць перамены і ў асабістым жыцці. Яркія адносіны, сустрэчы, а яшчэ – утульныя сямейныя вечары. Вы атрымаеце падтрымку сям'і, сяброў і партнёраў ва ўсіх пачынаннях. Але пагардлівыя адносіны да іх сыграюць злы жарт. Нягледзячы на тое, што год чакаецца ўдачным, ёсць верагоднасць, што не ўсе планы здзейсняцца, калі не будзеце звяртаць увагу на здароўе. А ад таго, як будзеце сябе адчуваць, залежаць шчасце ў асабістым жыцці, поспех, кар'ера.

## Рак



Увесь 2013 год будзе падобны да змяінай лускі – паласа светлая, паласа цёмная. Але ў цэлым год для вас можна вызначыць, як вельмі ўдачны перыяд жыцця. Пад уплывам фіялетавай Змяі вы разаўяце бурную дзейнасць, якая, магчыма, будзе забяспечваць вас некалькі бліжэйшых гадоў. Прычым гэта можа быць як прафесійная дзейнасць і развіццё кар'еры, так і магчымасць узяць шлюб па разліку. Практычна ўсю зіму Венера будзе знаходзіцца ў сектары кахання, таму менавіта ў зімовыя месяцы можна чакаць прыемных змяненняў у асабістым жыцці. Але каханне не прыйдзе адно. Разам з каханым чалавекам палепшыцца і матэрыяльнае становішча. Не марудзьце, бо зоркі даюць шанс толькі адзін раз. У шмат каго з вас яшчэ і ажыццявіцца запаветная мара, звязаная з далёкімі падарожжамі ці пераездам. Не будзьце абыякавыя да здароўя, каб пасля не прыйшлося адмовіцца ад сваёй работы дзеля лячэння.

## Леў



Леў – цар звяроў. Яму заўсёды падуладнае ўсё. І ў 2013 годзе ён застанецца ў выйгрышы. "Хто не рызыкуе, той не п'е шампанскае". А леў рызыкуе і… перамагае! Па-іншаму проста не можа быць. У новым годзе жыццё будзе ставіць перад вамі складаныя і, на першы погляд, невырашальныя задачы. Але вы будзеце дабівацца задуманага. У бізнесе наладзіце сувязі з каштоўнымі партнёрамі з розных краін ці гарадоў. Вы нават зможаце адкрыць сваю справу не толькі ў іншым горадзе, але і ў іншай краіне. Вы будзеце з'яўляцца ў патрэбным месцы ў патрэбны час і рабіць тое, што трэба. Хоць вашаму здароўю можа пазайздросціць кожны і вы надзелены сілай асілка, што можаце зрушыць горы, усё ж пажадана ўстанавіць вызначаныя нормы харчавання, ад якіх вы не будзеце адступаць. І адмоўцеся ад шкодных звычак: празмернага спажывання алкаголю, вялікай колькасці кавы, курэння.

## Дзева



Год Змяі для вас удачны. Вы без асаблівых цяжкасцей будзеце рухацца наперад, а яшчэ вам будуць даступныя любыя мэты. Добры год і для таго, каб пачаць уласны бізнес, калі яго няма. Змяя мае ласку да вас, бо вы тонкія стратэгі, якія плануюць і распісваюць увесь свой год наперад як у асабістым жыцці, так і ў кар'еры. Вас чакае месца кіраўніка. Новы сацыяльны статус зменіць ваша жыццё. Не сумнявайцеся ў сваіх сілах, не бойцеся цяжкасцей. Цалкам магчыма, што блізкі чалавек паставіць вас перад выбарам: каханне ці кар'ера. І гэты выбар стане вызначальным на некалькі гадоў. Адзінокім выпадзе шанец сустрэць сваю другую палавінку. А яшчэ перастаньце даймаць блізкіх людзей сваёй акуратнасцю, скрупулёзнасцю, прыдзіркамі. Нямногія будуць цярпець такое. У вас пачнецца павышэнне энергетыкі і ўсіх жыццёвых сіл. Але калі спатрэбіцца меддапамога, не займайцеся самалячэннем.

## Шалі



Першае, што вы павінны зрабіць у 2013 годзе, то гэта спыніць адносіны з людзьмі, якія будуць перашкаджаць вам вучыцца, жыць і працаваць. Вам трэба набрацца сіл, упэўненасці ў сабе і цвёрда сказаць ім "не". Другое, не бярыце на сябе абавязацельствы, якія высмоктваюць з вас энергію. Лоўкасць і кемлівасць, узнікшая пад уздзеяннем мудрай Змяі, дапаможа ў складаных сітуацыях і зробіць вас больш моцнымі ўнутры. Не траціце дарэмна грошы. Будзьце разважлівыя і мудрыя. Лёс вам усміхнецца восенню, калі ў вас з'явяцца сябры і апекуны, якія, ведаючы вашу працавітасць, старанасць і неверагодную працоўную актыўнасць, запросяць удзельнічаць у развіцці свайго бізнесу. Для таго каб пазбавіцца ад галаўнога болю, галавакружэння, мігрэні, вам неабходна ўпарадкаваць сваё жыццё, знайсці спакой і гармонію, а таксама зрабіць усё неабходнае для таго, каб настрой і думкі прыйшлі ў раўнавагу.

## Скарпіён



У 2013 годзе важна не згубіць сябе, нават калі сутыкнешся з падманам, здрадай блізкіх людзей. Не давярайце малазнаёмым людзям, бо менавіта з-за іх могуць адбыцца канфлікты. Год нясе новыя цікавыя знаёмствы. Змяя дапамагае тым, хто беражэ час і грошы. Рабіце зберажэнні і траціце грошы з розумам. А яшчэ вы будзеце проста здзіўляць энергіяй, актыўнасцю, будзеце ўсюды паспяваць. Чакаюць вас і прызнанні ў каханні. Адзінокія, нарэшце, змогуць знайсці свой ідэал. У асабістым жыцці і ў справах усё будзе залежаць ад таго, як шмат дрэннага і добрага вы зрабілі ў мінулым годзе. Усё, што вы зрабілі, вернецца вам у 2013 годзе. Каб не адбываліся ў арганізме збоі, якія праяўляюцца ў выглядзе бяссонніцы, нервовых цікаў, прастудных захворванняў, паніжэннем ці павышэннем ціску, не накопліваўце ў сабе эмацыйныя буры, навучыцеся сачыць за сваёй нервовай сістэмай.

## Стралец



Для вас у 2013 годзе пачнецца новы прафесійны перыяд, які дапаможа падняцца на зусім новы ўзровень. Вы будзеце працаваць на новым, высокааплатным месцы. Карыстайцеся вязеннем – Змяя будзе дапамагаць у дзелавых прапановах і праектах. Але трэба старанна працаваць, быць сумленным і адкрытым. У асабістым жыцці год таксама нясе вялікія перамены. Адзінокія змогуць адшукаць сваё шчасце. Тыя, хто рашуўся на больш адказны крок, возьмуць шлюб. Ну, а калі адносіны зжылі сябе, Змяя будзе садзейнічаць расставанню. Ва ўласных адносінах слухайце сваё сэрца, толькі яно падкажа вам правільны выхад у любой сітуацыі. Ды і Венера будзе садзейнічаць умацаванню вашых адносін. Хваробы будуць абыходзіць вас бокам, бо вы вельмі любіце жыццё. А ў чэрвені вы будзеце на сёмым небе ад шчасця. З вамі адбудзецца нешта незвычайнае, што пераверне ўвесь ваш уклад жыцця.

## Казярог



Вас у год Змяі чакае шмат здзяйсненняў і перамен. Адкрыюцца новыя перспектывы, магчымасці, і вы зможаце напоўніцу раскрыць свой талент. Вядома ж, будуць і праблемы, але ў цэлым шанцаваць будзе практычна ўвесь год. Палепшыцца фінансавы стан, а недзе з кастрычніка можна разлічваць на значнае павелічэнне даходаў. Такая тэндэнцыя будзе працягвацца і ў 2014 годзе. Вы ўмееце цаніць тых, хто вамі захапляецца, але не спяшайцеся раскрываць усе тайны. Адзінокія маюць шанс знайсці спадарожніка жыцця. І калі ён адразу будзе не на ваш густ, не адваджвайце яго, добра прыгледзьцеся, і вы знойдзеце тое, што вас да яго прыцягне. А калі з кім прыйдзецца расстацца, то не шкадуйце, замест старых адносін узнікнуць новыя, і яны атрымаюць другое дыханне. Некага чакае папаўненне ў сямействе. А са здароўем не жартуйце, за ім трэба сачыць, а не праўляць арганізм на трываласць.

## Вадалей



Год 2013 пройдзе для вас пад эмблемай поспеху і шчасця, адкрые новыя перспектывы, якія будзе ўносіць у жыццё на працягу некалькіх наступных гадоў. Зоркі раяць уважліва адносіцца да ўсяго, што звязанае з грашмі. Чакаюць вас і вогненныя жарсці, яны разгараюцца хутчэй летам і не згаснуць да самай восені і зімы. А нехта будзе выбіраць паміж новым каханнем і старым. Тут зоркі раяць перагледзець прычыну расставання, прааналізаваць сітуацыю некалькі разоў, перш чым рабіць высновы. Адзінокіх чакае сапраўднае вяселле з нараджэннем дзяцей у год Змяі. Мастакі, спевакі, музыканты змогуць паказаць свету свае творы, іх слава разнясецца далёка. Зоркі прарочаць вам адкрыццё ў сабе дызайнерскіх здольнасцей, таму рабіце рамонты, будуйцеся, абуладкоўвайце сваё гняздо. Вядзіце здаровы лад жыцця. Будзьце цярплівыя і чэсныя ў адносінах да сябе і навакольных, і ўдачага не прымусіць сябе чакаць.

## Рыбы



Для вас год Змяі стане годам змяненняў. Ды пертаварэнні пачаліся ўжо з 2012 года. Вы ўвесь гэты час планамерна ідзеце да сваёй мэты, якая павінна ажыццявіцца менавіта ў год Змяі. Да прызнання сваіх заслуг вы ўжо гатовыя, толькі чакаеце зручнага моманту, каб адразу пературыцца з пешак у каралі. Зоркі прадракаюць вам і духоўны пад'ём. Шмат хто зразумее, што жыў няправільна, пераасэнсуе сваё жыццё, даруе крыўды і сам папросіць даравання ў тых, каго раней пакрыўдзіў. У сям'і не заўсёды будзе спакойна, але ўсё якасна зменіцца да канца года. Адзінокім думкі і сэрца змог заняць толькі адзін чалавек і, магчыма, што да восені вы вырашыце ўзяць з ім шлюб. Грашовыя пытанні не будуць праблемай, грошай будзе хапаць не толькі на бязбеднае існаванне, але і на тое, каб зрабіць запас. Здароўе турбаваць асабліва не будзе, вірусы абыдуць бокам, а жыццё прымусіць пазбавіцца і ад шкодных звычак.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

 





## Святлана і Рыгор Сарокі:

# "Сям'я без кахання – гэта амаральна"

**МАЛАДЗЕЧНА. Святлана і Рыгор Сарокі жанатыя дзевяць гадоў, але сумеснае інтэрв'ю разам далі ўпершыню.**

**Як у Маладзечне паўстаў Палац культуры? Хто выхаваў музычны густ гараджан? У чым сакрэт стваральнай моцы шлюбу? Пра гэта распавялі нашы госці нумара.**

**– Святлана Рыгораўна, праца сенатара аказалася для вас такой, як вы яе сабе ўяўлялі?**

**Святлана С.**: За год я ведала, што мая кандыдатура прапануецца ў Сенат, і за год я шмат папрацавала. Я вывучыла, чым займаюцца ў Савеце Рэспублікі, чым займаюцца ў камісіі па адукацыі, навуцы, культуры і сацыяльным развіцці, бо меркавала, што мяне накіруюць менавіта туды.

Вывучала дакументы, якія прымалі, што наогул было зроблена камісіяй. Я ведала, на што я іду. І разумела, што будзе складана, таму што працу сенатара мы сумяшчаем з асноўнай працай. Да таго ж, усе праграмы, па якіх працуе і адукацыя, і міліцыя, і іншыя галіны, праходзяць праз культуру, таму я была ў тэме.

**– Рыгор Сямёнавіч, якім будзе самы буйны праект 2013 года?**

**Рыгор С.**: Опера пра Міхала Клеафаса Агінскага. Яна пішацца па маёй ідэі. На прэзентацыі фонду спадчыны Міхала Клеафаса ўжо прагучала арыя "Дзе ты, мая Айчына". Зала проста ўзарвалася! Гэтая опера – сапраўдная бомба ў культурнай плыні Беларусі. І нараджаецца яна ў Маладзечне. А потым пойдзе гуляць па свеце і стварыць гісторыю.

**– Калі яе можна будзе пабачыць?**

**Рыгор С.**: Я пастаўлю яе да 28 лістапада, майго дня нараджэння. Гэта і будзе маім святкаваннем. І нейк спрабаваў яго наогул не адзначаць, але мяне ўсё роўна віншуюць. Тым больш, што нам пашанцавала. На днях праекту оперы прысудзілі ў Мінску грант. Мы атрымалі ў дапамогу на пастаноўку 100 мільёнаў рублёў. І хоць гэта невялікая сума, але ўсё роўна грошы. Раней я ставіў оперы і наогул ніякіх грошай ніхто не даваў.

**– Чаму для вас такая блізкая асоба Міхала Клеафаса?**

**Рыгор С.**: Калі я шукаў імя музкаледжу, то выбіраў тое, якое ведае свет. Міхала Клеафаса ведаюць, асабліва ў Еўропе. Акрамя гэтага ён прывязаны да тутэйшых мясцін, бо насіў тытул графа маладзечанскага і меў замак у Залессі. Вядома, што Агінскі не Бетховен і не Шапэн. Але ён быў не толькі кампазітарам, а яшчэ і палітыкам, і рэвалюцыянерам. Таму, з гэтага боку, і Бетховен не мацнейшы за Агінскага.

**– Ці ўяўлялі вы, што ваша праца дасягне такога маштабу?**

**Рыгор С.**: Я проста хацеў займацца любімай справай. У мяне ў дзяцінстве не было вялікага выбару, куды падацца. Я нарадзіўся ў вёсцы Турэц-Баяры. Маці была звеннявая па лёну. Дарэчы, яна атрымала ў Маскве залаты медаль ВДНГ (выставы дасягненняў народнай гаспадаркі).

Мой бацька, Сямён Мікалаевіч, працаваў майстрам вагоннага дэпо. Памятаю яго прасмоленае адзенне. Бацька быў выдатным краўцом. Займаўся гэтым пасля таго, як прыходзіў з асноўнай працы. Усе маладзечанскія стылягі шылі ў яго сабе адзенне. Юрый Антонаў у тым ліку. Яшчэ бацька іграў на розных музычных інструментах.

**– Дык гэта ён вам прывіў такі музычны густ?**

– Вядома. У нашым доме часта гучала музыка, бо бацьку ўвесь час хацелася ўзяць у рукі які-небудзь інструмент і зайграць. Ён і мне прывозіў розныя інструменты. Хаця бацькі не думалі, што я буду музыкантам. Бацька хацеў, каб я быў ветэрынарам. Тады ў вёсцы гэта была запатрабаваная справа. Але калі бацькі пабачылі мой талент, не супраціўляліся, а толькі дапамагалі. Асабліва бацька.

**– Як вы патрапілі ў музычную школу?**

**Рыгор С.**: Не адразу. Музычная школа была ў горадзе, а я жыў у вёсцы. Трэба было ездзіць 20 кіламетраў, таму мяне не прынялі. Я год займаўся музыкай у Лебедзеве з баяністам-самавучкай Корсакам. Потым бацька пабудаваў дом у горадзе, і мы пераехалі. Спачатку спрабаваў паступіць у музвучылішча, але не ўзялі. Затое прынялі ў музычную школу, і я скончыў яе хутчэй, чым тыя, хто паступаў раней за мяне. Тады я ўжо вучыўся ў 10-м класе і за два гады цалкам прайшоў пяцігадовы курс. А потым ужо зноў паступаў у музвучылішча. З вялікім поспехам яго скончыў, і мяне пакінулі тут працаваць настаўнікам. Кансерваторыю па класе баяніста і дырыжора я заканчваў ужо завочна.

**– Святлана Рыгораўна, вас заўсёды вабіла культура?**

**Святлана С.**: На пачатку свайго шляху я паступіла ў медыцынскае вучылішча разам з сяброўкамі. Сяброўкі не змаглі здаць экзамены, таму і я забрала дакументы, бо не хацела вучыцца без іх.



Святлана і Рыгор Сарокі шчыра і з усмешкай расказваюць пра сваё жыццё.

Фота Зоі ХРУЦКАЙ

А праз два гады прыняла рашэнне і паступіла адна, без сябровак, у мінскае культурна-асветніцкае вучылішча. І як цяпер падумаю, што з вёсачкі, без спецыяльнай адукацыі, выраішыла туды паступіць, то часам так смешна становіцца, як Фрося Бурлакова з фільма "Прыходзьце заўтра...".

Але было вялікае жаданне, мяне прынялі. Вучыцца было вельмі складана, бо іншыя – пасля музычнай школы, а я не ведала ні адной ноты. І я працавала над сабой. Пасля заняткаў усе разыходзіліся, а я шукала свабодны клас і вучыла ноты. І ўжо на першым экзамене па акардэоне я мела станоўчы вынік, а закончыла вучылішча на пяцёркі.

**Рыгор С.**: Света закончыла інстытут культуры без ніводнай дзявяткі, усе дзясяткі ў яе. Пашукайце яшчэ такія дыпломы. А там складана вучыцца, шмат перездач.

**Святлана С.**: Я на той час працавала дырэктарам раённага метадычнага цэнтра, і калі з'явілася спецыяльнасць "Культуралогія, менеджмент сацыяльна-культурнай сферы", то я зразумела, што гэта тое, што трэба. Раней жа нідзе не вучылі быць кіраўніком. І хаця былі такія прадметы, як бухгалтарскі ўлік, аўдыт, было вельмі цікава.

**– А як вы сталі дырэктарам Палаца культуры?**

**Святлана С.**: Раней раён гучаў больш, чым горад, было вельмі шмат мерапрыемстваў. А ў горадзе адзіная пляцоўка – музычны каледж, дзе адбываліся ўсе мерапрыемствы. Запрасіў мяне на размову мэр, паглядзеў адзнакі ў дыпломе і прапанаваў стаць дырэктарам палаца. Я адмовілася, ён яшчэ даў падумаць. Пасля падумала, а навошта я вучылася? Я не магла б рэалізаваць свае ідэі на той пасадзе.

Мяне прызначылі дырэктарам Палаца культуры. Я прыйшла сюды, а тут былі толькі голыя сцены. І пасля гэтага два тыдні плакала, думаючы, на што ж я пагадзілася. Рабі, што хочаш.

Спачатку я вывучыла ўсе памяшканні. Зыходзячы з таго, колькі памяшканняў, глядзела, які павінен быць персанал. Комплекс павінен быў сябе абслугоўваць, моцным мусіў быць інжынерна-тэхнічны бок. Узяла спецыяльныя кнігі і вылічвала па іх, колькі трэба спецыялістаў. Прыйшла да мэра і кажу, што, паводле штатнага раскладу, мне трэба столькі чалавек. Ён адказвае: "Колькі??? 131 чалавек?"

Я тлумачу: гэта павінна абслугоўваць столькі і столькі чалавек, вось гэта – столькі. А справа ў тым, што калі ўзнялі пытанне будаўніцтва гэтага палаца, то адказалі, а навошта ён наогул трэба. Ёсць жа ў Салігорску, Барысаве і Слуцку, у якіх працуе 30-40 чалавек. А я адказала, што гэты палац будзе такім, што ўсе мерапрыемствы будуць праходзіць толькі тут. І што сюды будуць прыязджаць зоркі расійскай эстрады.

Так яно і сталася, але ў гэта ніхто не верыў. Мэр сказаў, каб ехала ў аблвыканкам, і калі змагу дамовіцца, то няхай так і будзе. Паехалі разам з Надзеяй Сідарэнкай, загадчыцай аддзела культуры. Нам адказваюць, што будуць думаць два тыдні. Я кажу: "І што, будзеце самі для мяне калектыў падбіраць? Седзячы ў сваіх памяшканнях?"

Надзея Іванаўна вельмі абурылася, я папрасіла яе трошкі прагуляцца, а сваіх суразмоўцаў запрасіла задаваць пытанні. На ўсе пытанні я адказвала, для чаго патрэбна столькі чалавек, бо была падрыхтаваная. І праз паўгадзіны заходзіць Надзея Іванаўна, а яны падпісваюць штатны расклад.

**– У дзяцінстве вы займаліся спевамі, а ці часта спяваеце цяпер?**

**Святлана С.**: Я вырашыла больш займацца клубнай работай. Я магу правесці мерапрыемства, але сама выбрала іншы шлях, я цяпер не спяваю.

**– Рыгор Сямёнавіч, музыка – гэта ваша адзінае захапленне?**

**Рыгор С.**: Я жудасны кнігалюб і ні дня не жыву без кніг. Пастаянна чытаю: то Караткевіча, то японца Муракамі, то музычную спецлітаратуру. Кнігі зрабілі мяне чалавекам. У іх вялікі чалавечы досвед, які накопліваўся стагоддзямі, і шмат адказаў.

**– Калі вы пачалі купляць кнігі?**

**Рыгор С.**: Я купляю іх з дзяцінства. Яны каштавалі раней вельмі дорага. Памятаю, як раней казалі: "Любіш кнігі – разлюбі грошы".

**– А адкуль у вас былі грошы на іх?**

**Рыгор С.**: Я пачаў працаваць у 15 гадоў. Спачатку канцэртмайстрам у чыгуначным клубе, по-



 

тым баяністам у палітэхнікуме ці ва ўлікова-планавым тэхнікуме.

**– З чаго вы пачыналі свой кар'ерны шлях?**

**Рыгор С.**: Ад аркестра баяністаў. Мы з ім на адным з рэспубліканскіх конкурсаў занялі другое месца сярод навучальных устаноў. Потым у мяне быў аркестр рускіх народных інструментаў. Я ім кіраваў 19 гадоў, і за гэты час мы аб'ездзілі вельмі шмат краін. Але давялося яго пакінуць, бо перарос такую музыку. Яна не вялікая. Такая музыка знаходзіцца каля яе, а не ў самым эпіцэнтры. У эпіцэнтры знаходзіцца сімфанічная музыка, а сімфанічнаму аркестру пад сілу ўсё!

**– Чаму вы вырашылі жыць у Маладзечне?**

**Рыгор С.**: Я не люблю вялікіх гарадоў, вялікіх тусовак. Самае страшнае з урачыстасці для мяне – вяселле. Як запросяць на вяселле, дык у мяне за месяц настрой псуецца. Збяруцца розныя людзі, возьмуць гэтага вядучага, нейкага чужога чалавека, а той пачне праводзіць недарэчныя гульні. Хаця я люблю прыехаць у вялікі горад: Парыж ці Амстэрдам, – і паглядзець на прыгажосць, адпачыць. У паўсядзённасці мне трэба спакой, я вельмі люблю прыроду, лес.

**– Святлана Рыгораўна, як вам ўдаецца выглядаць заўсёды так чароўна?**

**Святлана С.**: Я часта кажу свайму калектыву, што калі чалавек у культуры, ён павінен і знешне, і ўнутрана быць прыгожым. І прычоска, і макіяж, і адзенне павінны быць у парадку.

**Рыгор С.**: Тут тады трэба дадаць, што табе ніколі не забаранялі купляць, што ты хочаш. І туфляў тых сотні стаяць, і ўсё іншае.

**Святлана С.**: Гэта нармальна для жанчыны (смяюцца). Хіба можна апрануць сукенку, калі да яе няма туфляў у тон? А паколькі мой муж эстэт і яму не ўсё роўна, як я выглядаю, ён ніколі не шкадуе грошай.

**– Як вы падтрымліваеце сваё здароўе?**

**Рыгор С.**: Я спартыўны чалавек. Раніцай 20 хвілін раблю зарадку. У мяне дома і турнік ёсць, на якім дзесяць разоў падцягваюся. У мяне ў вучылішчы з настаўнікаў ніхто так не падцягнецца!

Я не ляну юся і хаджу пешшу. Трэба пайсці ў краму ці некуды злётаць – няма праблемы, мяне не трэба ўпрошваць. А вечарам люблю пагуляць у парку, каб падумаць і адпачыць.

Не магу глядзець, калі ў лазні многія мужыкі падымуць руку, а ў іх мышцаў няма, толькі абвіслая скура. У мяне такога няма ( і спадар Рыгор дэманструе нам свае рукі). Дапамагае падтрымліваць форму і мая праца дырыжорам. Многія вядуць заняткі седзячы, я ж амаль не саджуся.

Сачу за вагой, каб не было гэтых лішніх кілаграмаў. Колькі мужыкоў зараз, прабачце, як цяжарныя жанчыны! І маладыя, слухайце, а такія цюфякі! Ну і што, няўжо гэта здароўе? Разваліна!

**– А ці рэлігійны вы чалавек?**

**Рыгор С.**: Я лічу, веруючы той чалавек, які робіць на гэтай зямлі дабро! Я люблю жывёл, шкадую іх, купляю ім спецыяльна кілбасу і Свеце кажу: "Ты гэта не з'еш. Гэта не табе". Трэба рабіць добрыя справы! У гэтым жа сэнс рэлігіі? Каб чалавек рабіў на гэтай зямлі дабро. Дык я гэта раблю! Іншы наогул прыйдзе ў царкву, памоліцца і пойдзе грашыць. І ён што, веруючы чалавек? Я так не лічу.

**– Як вы адпачываеце?**

**Рыгор С.**: Вельмі любім на Нарачы адпачываць. Часам адпачываем на моры – у Егіпце ці Турцыі.

**Святлана С.**: Але гэта нас не вельмі цікавіць, толькі калі ўжо мы вельмі стаміліся і хочам, каб нас ніхто не турбаваў. Любім наведваць канцэрты, але толькі высокага ўзроўню, дзе нам не будзе рэзаць вуха. А лепшы адпачынак для нас – калі мы збіраемся са сваімі сябрамі, аднадумцамі такой цеснай кампаніяй, і тады мы набіраемся энергіі.

Хочацца праводзіць час з людзьмі, з якімі цікава, у якіх ёсць чаму павучыцца і разам з якімі можна ствараць новыя праекты. Мы вельмі любім удваіх спакойна паразмаўляць, у такіх гутарках нараджаюцца новыя ідэі. Аднак гэта бывае нячаста, я ўвесь час за камп'ютарам – і справаздачы, і сцэнары да мерапрыемстваў.

**Рыгор С.**: Паласа ў яе цяпер такая.

**Святлана С.**: Адпачываем на лецішчы, дзе вельмі любяць збірацца нашы дзеці і ўнукі. Рыгор Сямёнавіч даглядае там сад, вырошчвае кветкі. І ў перыяд, калі я была вельмі занятая, прывозіў мне кветкі, каб я пабачыла, што ў нас расце. Падразае дрэвы, калі трэба, і сёлета ў нас упершыню былі свае яблыкі.

**Рыгор С.**: На адной яблыні ажно 30 яблыкаў было! Прафесар Путырскі любіць да нас у госці прыязджаць.

**Святлана С.**: Асабіста я яшчэ люблю вязаць. Гэта дапамагае выходзіць з розных псіхалагічных станаў.

**– Што вы вяжаце?**

**Рыгор С.**: Яна вяжа так, што ніхто не верыць, што вязала яна. Была паласа, калі яна кожны вечар вязала, я ўжо свабыцца пачаў.

**Святлана С.**: У свеце столькі цікавага! Ну столькі, што можна рабіць рукамі. І калі б арганізм чалавека быў пабудаваны так, што мог бы наогул не спаць, я б наогул не спала. Рыгор Сямёнавіч часта робіць мне заўвагі, што не сплю. А я не магу, мне цікава, я пішу, штосьці яшчэ раблю. Я люблю ствараць рукамі.



Сям'я – гэта тое, што трэба берагчы ўсё жыццё, упэўненая Святлана Рыгораўна.

Фота забяспечана Святланай САРОКАЙ.

**Рыгор С.**: Так, яшчэ неяк захаплялася... Як гэта тэхніка называецца? Карлінг, калі з садавіны ці гародніны выразаеш штосьці прыгожае. З дыні выразала такую прыгожую ружу. Яна любіць дом. І калі б не такая занятая, а проста гаспадыня, то гэта было б нешта! Яна ўсё ўмее – і прыгатаваць, і так аформіць стол, што адразу відаць, якая яна таленавітая.

**Святлана С.**: Рыгор Сямёнавіч мой у ежы непераборлівы, але заўсёды можа ацаніць, калі смачна прыгатавана і прыгожа аформлена. Вядома, каб энергетычна падтрымліваць сябе, трэба нармальна харчавацца. Таму ў абед мы заўсёды дома.

**Рыгор С.**: Калі ў яе было больш часу, то яна ў абед, за гадзіну, паспявала прыгатаваць і першую, і другую стравы. Цяпер мы ад гэтага крыху адышлі, але я ёй заўсёды кажу, каб не хвалявалася, я куплю ў краме салацік, прыгатаванае мяса, пагрэю і паабедаю.

**– Ці складана, калі ў адной сям'і два лідары, якія працуюць у адной галіне?**

**Святлана С.**: Усе рашэнні мы прымаем разам. Рыгор Сямёнавіч кажа, што ён вырашыў, і я адразу з ім пагаджаюся. А праз 30 хвілін я ўжо пачынаю расстаўляць кропкі над "і", як жа будзе лепей.

**– Раскажыце пра сваіх дзяцей.**

**Рыгор С.**: Мая Оля са сваёй сяброўкай напісалі кнігу аб тым, як мы ўсталёўвалі памятную дошку Агінскаму, а таксама два гады працавалі над кнігай аб маім аркестры. Оля закончыла музкаледж, і пасля інстытут культуры. А Таня стала піяністкай і працуе ў маім аркестры. Яна таксама закончыла музкаледж, пасля Акадэмію музыкі і магістратуру.

**Святлана С.**: А Дыяна скончыла гімназію-каледж, цяпер вучыцца ў інстытуце культуры. Яна стала харэографам. Старэйшы унучак – Грышка. Як мы хацелі, каб ён займаўся музыкай, але ён у бацьку, больш вабіць тэхнічнае. А ўнук Жэнька ў нас артыст з добрым слыхам, заўсёды нас цешыў, спяваў песні.

**– А што б вы пажадалі нашым чытачам?**

**Рыгор С.**: Я жадаю нашым вельмі дарагім землякам пражываць кожны дзень так, каб пасля яго можна было нешта пакінуць сваёй сям'і, на працы, у горадзе нейкі ўнёсак, які ўпрыгожыць нашае жыццё. Увесь час стваральна нешта. Няхай усе будуць і здаровыя, і багатыя, і шчаслівыя, каб маглі выканаць галоўнае пажаданне.

**Святлана С.**: А я жадаю любові ў сэрцы і душы. Гэта вялікае пачуццё, якое дапамагае ствараць нешта новае ў жыцці. Няхай кожны здзейсніцца ў сваёй працы. А галоўнае – гэта сям'я. Яе мы павінны берагчы ўсё жыццё. Жадаю, каб усе сагравалі цяплом сваіх родных. Няхай Новы год будзе не толькі святам, але і пачаткам добрых спраў і прыемных падзей.



Рыгор і Святлана Сарокі – разам у творчасці і ў жыцці.

Фота забяспечана Святланай САРОКАЙ.



Святлана Сарока заўсёды здзіўляе сваёй чароўнасцю.

Фота забяспечана Святланай САРОКАЙ.

**Сёлета музычнаму каледжу спаўняецца 55 гадоў, а аркестру Рыгора Сарокі – 45 гадоў. У 2015 годзе будзе адзначацца 250-годдзе Міхала Клеафаса Агінскага. Спадар Рыгор ужо рыхтуецца да гэтай даты. У лістападзе будзе пастаўленая опера пра Агінскага.**

Рыгор Сямёнавіч кіруе сімфанічным аркестрам маладзечанскага музычнага каледжа імя Агінскага і адначасова з'яўляецца дырэктарам каледжа, а Святлана Рыгораўна працуе дырэктарам Палаца культуры і з 2012 года – член Савета Рэспублікі.

**Зоя ХРУЦКАЯ,**
**Настасся РОЎДА.**



Рыгор Сарока падчас працы.

Фота забяспечана Святланай САРОКАЙ.



З ГІСТОРЫІ СВЯТА

# Наш край пасля 1812 года

*Працяг. Пачатак у №№50, 51.*

**Думаецца, што з цягам часу ўсялякія загадкі будуць прыадкрытыя, і ў той далёкай гісторыі стане менш таямніц.**




**Мураваны касцёл у Даўгінаве.**

З 1840 года і да канца жыцця лёс Юзафа звязаны з Каўказам, дзе ён у вельмі складаных прыродных і кліматычных умовах і амаль несупынных ваенных дзеяннях склаў падрабязную карту гэтага рэгіёна, першы пакарыў гару Арарат, правodзіў шмат навуковых назіранняў і доследаў, якія вельмі цаніліся сярод вучоных і выкарыстоўваліся многімі спецыялістамі.

Быў яшчэ адзін Ходзька – Леанард (1800-1871). Нарадзіўся ён у вёсцы Аборак цяперашняга Маладзечанскага раёна. Вучыўся ў Барунах, Маладзечне, Вільні, быў членам таварыства філарэтаў, асабістым сакратаром вядомага кампазітара і дыпламата Міхала Клеафаса Агінскага. Пазней эміграваў у Францыю, удзельнічаў у рэвалюцыях 1830 і 1848 гадоў, служыў ад'ютантам генерала нацыянальнай французскай гвардыі Лафаета, шмат пісаў на гістарычныя і навукова-папулярныя тэмы.

### Тамаш Зан і мураваны касцёл у Даўгінаве

А тым часам Тамаш Зан, меўшы ўжо званне кандыдата філасофіі, каля 12 гадоў жыцця правёў у Арэнбургскім краі. Гэты перыяд быў напоўнены цікавай навуковай работай, разнастайнымі экспедыцыямі па Сібіры, Урале, Паволжы і Сярэдняй Азіі. Ён адкрыў каля 10 радовішчаў золата, меднай і жалезнай руды, сабраў вялікую калекцыю мінералаў, вывучаў тутэйшую гісторыю і фальклор. Сустракаўся і сябраваў з многімі вядомымі людзьмі.

Быў блізкім з сям'ёй генерала Апалона Жамчужнікава, тры ўнукі якога, Аляксей, Уладзімір, Аляксандр, і іх стрыечны брат паэт Аляксей Талстой доўгі час пад псеўданімам Казьма Прутков выступалі ў друку з сатырычнымі творамі. Унучка генерала была замужам спачатку за Мікалаем Агаровым, а затым за Аляксандрам Герцэнам.

Сустракаў Зан дзекабрыстаў, якія праязджалі праз Арэнбург, у тым ліку Пятра Бястужава.

Аўтар вядомага раманса "Салавей" Аляксандр Аляб'еў таксама быў там у ссылцы і разам з Занам часта прымаў удзел у званых вечарах.

У 1833 годзе Аляксандр Пушкін, збіраючы матэрыялы па гісторыі Пугачоўскага бунту, на тры дні спыняўся ў Арэнбургу. У гэты час вялікі паэт быў знаёмы і сябраваў з Адамам Міцкевічам, а апошні перапісваўся з Тамашам Занам, таму не выключана, што тут магла адбыцца іх сустрэча.

У 1837 годзе Зан атрымаў дазвол пераехаць у Пецярбург, дзе ён працягваў займацца літаратурнай і навуковай працай. На радзіму здолеў вярнуцца толькі праз чатыры гады. Жыў і працаваў у Гродне, Вільні, Лепелі.

Памёр і пахаваны Тамаш Зан у 1855 годзе ў мястэчку Смаляны каля Оршы. Славіўся ў літаратурнай творчасці лірычнымі вершамі, баладамі, камедыямі з апісаннем у іх беларускіх абрадаў.

А вось яшчэ адзін цікавы момант з жыцця Зана, больш падобны да легенды. У 1842 годзе ён вяртаўся на бацькаўшчыну. У Даўгінаве зайшоў памаліцца ва ўбогі драўляны касцёлік, пабудаваны Барбарай Камінскай (мемарыяльная дошка, замацаваная ўнутры святыні, аб гэтым і цяпер сведчыць). Акрамя касцельнага, там нікога не было. Выходзячы праз некаторы час з касцёла, Тамаш сустрэў ксяндза, у якім пазнаў свайго даўняга сябра, члена таварыства філарэтаў Юзафа Львовіча. Яны шчыра прывіталіся і пусціліся ва ўспаміны.

Юзаф Львовіч (1794-1857) нарадзіўся на Вільні. Атрымаўшы вышэйшую адукацыю, працаваў выкладчыкам матэматыкі калегіума ў Полацку, дзе таксама падшыраўся рух філарэтаў, трымаў трывалую сувязь з Вільняй. Тайная арганізацыя і тут была раскрытая, а Юзафа разам з двума таварышамі арыштавалі, а пазней, пасля заканчэння справы, пазбавілі выкладчыцкіх правоў. З 1842 года і да канца свайго жыцця ён выконваў абавязкі пробашча спачатку надоўга Касцяневіцкага, а затым Даўгінаўскага касцёлаў і адначасова дэкана Вілейскага дэканата.

На развітанне Тамаш Зан запытаў у Львовіча наконт убогасці касцёла, на што апошні адказаў, што людзі тут вельмі бедныя, і ён не можа прасіць у іх дапамогі. Зан дастаў з кішэні табакерку, якую яму зрабілі з разведанага ім радовішча золата ўдзячныя купцы, і сказаў: "Слухай, браце, ты пабудуеш мураваны касцёл, а на пачатак вазьмі залатую табакерку". У адказ Львовіч вымавіў: "Ты не маеш ні кавалка зямлі, на табе залатоўку і купі яе". Пазней гаварылі, што ксёндз за табакерку Зана пабудаваў у 1853 годзе касцёл (які існуе і цяпер), а Зан за золата ксяндза купіў вёску.

Юзаф Львовіч, як чалавек добрай душы і вельмі адукаваны, усяляк дапамагаў простаму люду, быў знатным народным лекарам. Да яго цягнуліся з апошняй надзеяй людзі з розных куткоў Беларусі, Літвы і Польшчы, чым і было праслаўлена ў той час Даўгінава.

Адам Міцкевіч увекавечыў яго вобраз у трэцяй частцы вядомай паэтычнай драмы "Дзяды". Вялікі паэт вельмі цаніў дружбу, меў многа сяброў, якіх пазней лёс параскідваў па ўсім свеце. У час сустрэчы ў Парыжы з Аляксандрам Ходзькам Міцкевіч сказаў пра наш край: "Нідзе на зямлі няма весялейшага жыцця, як у літоўскіх вёсках і засценках. Гэтульki там радасці, любасці, чалавечага бясконцага шчасця...".

### Сябар Адама Міцкевіча Ян Чачот і песні з-пад Куранца

Асабліва блізкі быў Міцкевічу Ян Чачот, з якім ён пазнаёміўся яшчэ ў час вучобы ў першым класе. Пасля заканчэння навагрудскай школы яны ў 1815 годзе разам паступілі ў Віленскі ўніверсітэт, але праз год Ян з-за недахопу сродкаў вымушаны быў пакінуць вучобу і паступіў на працу пісарам. Нягледзячы на цяжкасці, працягваў займацца самаадукацыяй.

Даведаўшыся пра тайную арганізацыю філаматаў, ён адразу ўступае ў яе і на некаторы час становіцца яе сакратаром. Там жа захапіўся паэзіяй. Найбольш блізкімі яму былі балады, песні, вершы, гэта любоў захавалася ў яго на ўсё жыццё. Пасля ссылкі ён вярнуўся ў Беларусь пад нагляд паліцыі. Працаваў спачатку ў Лепелі, затым на роднай Навагрудчыне. Падарванае ў Сібіры здароўе дало аб сабе знаць, і ён, цяжка хворы, памёр у Друскеніках.

Ян Чачот у пяці выдадзеных ім зборніках змясціў больш за тысячу беларускіх народных песень, перакладзеных пераважна на польскую мову. Збіраючы іх, ён шмат падарожнічаў па Беларусі, у тым ліку па Вілейшчыне і ў Завілейскім павеце, калі рыхтаваў зборнік "Сялянскія песні з-пад Нёмана і Дзвіны" (1846г.). Запісваў паэт іх у ваколіцах Куранца. Наведваў ён і ў Даўгінаве свайго старога таварыша ксяндза Львовіча, які ў даўнія часы філамацкіх вечарынак спяваў свае родныя украінскія песні, што пазней увайшлі ў зборнік "Песень з-пад Дняпра".

**Анатоль РОГАЧ.**
**Працяг будзе.**



**Даведка "РГ".** Анатоль Рогач. Краязнаўца. Нарадзіўся ў в. Каралеўцы на Вілейшчыне 1 чэрвеня 1947 года. Памёр 3 сакавіка 2010 года ў Вілейцы. Аўтар шматлікіх публікацый аб гісторыі нашага краю.

КАЛЯНДАР

**4 снежня.** 90 гадоў з дня нараджэння Міколы Ваданосава (Мікалая Міхайлавіча) (1923 – 2006), беларускага пісьменніка, заслужанага работніка культуры Беларусі.

***

**90 гадоў** з дня нараджэння Мамікона Кіраказава (1923 – 1998), дзеяча самадзейнага мастацтва, балетмайстра, заслужанага дзеяча культуры Беларусі.

***

**7 студзеня.** Раство Хрыстова.

***

**1991 год.** Пастановай урада Беларусі дні святкавання Божага Нараджэння, 25 снежня, і Раства Хрыстова, 7 студзеня, аб'яўленыя непрацоўнымі днямі.

***

**8 студзеня.** У вёсцы Дамашы Маладзечанскага раёна нарадзіўся Генадзь Каханоўскі (1936 – 1994), беларускі гісторык, археолаг, краязнаўца, фалькларыст, літаратуразнаўца. Доктар гістарычных навук (1992). З 1964 года – супрацоўнік, намеснік дырэктара, дырэктар Мінскага абласнога краязнаўчага музея ў Маладзечне, з 1981 года – старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі, з 1991 года – старшы навуковы супрацоўнік, загадчык аддзела Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Скарыны.

***



**165 гадоў** з дня нараджэння Якуба Наркевіча-Ёдкі (1848 – 1905), прыродазнаўца, медыка, стваральніка метэаралагічнай станцыі (стварыў у сваім маёнтку ў 1888 г.).

***

**9 студзеня.** 495 гадоў з выхаду кнігі "Песня песняў", пражскага выдання Францішка Скарыны (1518 г.) Гэта зборнік інтымна-лірычных песень, якія не мелі рэлігійнага характару, ён уваходзіць у склад Старога запавету. Гэта адзінае пражскае выданне Скарыны, у якім выкарыстаны двухфарбавы друк: чырвоным колерам набраныя загалоўкі, прадмовы, частка тэксту. Цяпер захавалася дзевяць экземпляраў кнігі, і толькі адзін з іх поўны.

***

**10 студзеня.** 45 гадоў назад (1968) уведзена ў лік дзеючых Брэсцкая панчошная фабрыка (з 1969 г. мае назву Брэсцкі панчошны камбінат).

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**

СТУДЭНЦКАЕ ЖЫЦЦЁ З УСМЕШКАЙ

# Здаём іспыты на халяву!

**Сесія – самы важны і напружаны перыяд у жыцці кожнага студэнта. І каб атрымаць у залікоўку запаветную адзнаку, студэнты гатовыя звяртацца нават да чорнай магіі.**

Хвалююцца і выдатнікі, і троечнікі, і старшакурснікі, а больш за ўсіх першакурснікі. У любым заліку ці іспыце прысутнічае элемент латарэі. Усім вядома, што, колькі ні вучы, прабелы ў ведах ўсё роўна застануцца, ды і любы выкладчык ведае больш за студэнта. Хваляванне сыходзіць толькі тады, калі бярэш білет і пачынаецца напружаная праца самай дасканалай пошукавай сістэмы – "мозга студэнта".

Адным з самых распаўсюджаных спосабаў барацьбы з напругай – гэта выкарыстоўванне разнастайных прыкмет, што абяцаюць шчаслівую здачу іспытаў. Напрыклад, калі прарабіць пэўныя маніпуляцыі над залікоўкай, то на экзамен можна ісці смела. Добразычлівасць выкладчыка гарантаваная.

Аааааа!!!!!!!
Сеесііііяяя!!!!!!!!

Студзень

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Аўт | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Ср | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Чц | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Пц | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Сб | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Ндз | 6 | 13 | 20 | 27 | |

**Для студэнта галоўнае не здаць іспыт, а своечасова ўспомніць пра яго!**

## Выклікаем "халяву"

Як паведаміў студэнт трэцяга курса факультэта паліталогіі інстытута парламентарызму і прадпрымальніцтва **Васіль Радзевіч**, робіцца гэта так: у ноч перад іспытам (роўна апоўначы) трэба адкрыць залікоўку, выставіць яе ў фортку і тройчы вымавіць магічныя словы: "Лавіся, лавіся, "халява!" У іншым варыянце трэба самому высунуцца ў фортку разам з залікоўкай ці выйсці на балкон і крычаць як мага гучней: "Халява, прыйдзі!"

– Гэта надзейней, – прызнаецца Васіль. – Пры гэтым трэба паказаць "халяве" месца ў залікоўцы, ткнуць пальцам, каб не прамахнулася. Злавіў "халяву" – закрый залікоўку, перавяжы яе чырвонай ніткай, каб назад не выскачыла. Потым залікоўку трэба пакласці пад падушку і не адкрываць да іспыту. А лепш не адкрываць і на самім іспыце, пажадана толькі страсянуць, каб "халява" прачнулася. Спосаб верны і не адным пакаленнем студэнтаў правераны. Складана сказаць, як там з "халявай", але студэнт ідзе на іспыт больш спакойны, адказвае больш упэўнена, значыць, і адзнаку атрымлівае лепшую, і іспыт яму больш не здаецца такім жахлівым.

Аднак існуюць і іншыя спосабы прыцягнення ўдачы на свой бок.

## Талісман на шчасце

Некаторыя носяць з сабой на экзамен талісман на шчасце. Звычайна якую-небудзь невялікую мяккую цацку, ляльку, рэдкую звязку ключоў або пярсцёнак з каменем, незвычайным і сімпатычным.

**Талісман нельга нікому паказваць і казаць, што гэта талісман, інакш ён страціць сваю "сілу".**

Прадаўшчыца адной маладзечанскай ювелірнай крамы **Юлія Машутка** расказала мне, што большай папулярнасцю ў студэнтаў карыстаецца камень агат. Менавіта ён, як лічыцца, развівае розум і памяць.

## Шчаслівы пінжак

Некаторыя студэнты ўсе іспыты здаюць у адной вопратцы: калі першы іспыт сесіі прайшоў на "выдатна", то на ўсе астатнія яны прыходзяць у тым жа "шчаслівым пінжаку".

Ці ўсе іспыты здаюць з адной і той жа ручкай. Яна ўжо і абдзёртая, і амаль паламаная, ледзь піша, а студэнты ўсё цягаюць яе з сабой з самага першага курса.

## Клін клінам выбівае

Іншыя цягнуць білет левай рукой або з заплюшчанымі вачамі. Можна выцягнуць канкрэтны па ліку, напрыклад, трэці з краю, сёмы або дзявяты. Многія студэнты кажуць, што гэта шчаслівыя лічбы.

Ці наадварот, адлічваюць трынаццаты па ліку. Па прынцыпе "клін клінам": калі не баішся няўдачы, то яна пачынае баяцца цябе.

## Патрымацца за выдатніка

Перад тым, як цягнуць білет, можна пастукаць па дрэве ці па парце, патрымацца за дрэва ці за чалавека, які толькі што здаў іспыт на "выдатна". Хай выдатнік не крыўдзіцца, але патрымацца за яго і за дрэва дае аднолькавы эфект.

Некаторыя крыжуюць пальцы (сярэдні і ўказальны) на руках, каб не сурочыць. Хто на левай, хто на правай, хто на абедзвюх адразу. Нікому не паказваюць залікоўку з папярэднімі адзнакамі, каб таксама не сурочылі.

## Усё левай нагой

Раніцай ўстаюць з левай нагі, кладуць шпаргалкі правай рукой у левую кішэню. Заходзяць у інстытут, пераступаючы левай нагой усё парогі (ці тры першыя прыступкі), з левай нагі заходзяць у аўдыторыю.

**Рыхтуючыся да іспыту, нельга пакідаць канспекты і кнігі адкрытымі. Каб тое, што ўжо вывучана, "не выветрылася".**

Кладучыся спаць, добра класці канспект пад падушку, каб у сне веды самі пранікалі ў галаву.

## Ні пуху ні пер'я – пажаданне на ўдачу

Добра, калі знаёмыя жадаюць ні пуху ні пер'я. Прычым, у розных людзей гэта пажаданне валодае розным эфектыўнасцю.

Лепш, калі ўвесь час жадае адзін і той жа чалавек, у якога пажаданне самае моцнае. І робіць гэта сам, без напамінаў, каб не даводзілася пакутліва напрошвацца.

## Народныя прыкметы:

1. Па дарозе ў інстытут нельга наступаць на вечка каналізацыйных люкаў, а калі ўсё ж зазяваешся і наступіш, трэба да чаго-небудзь дакрануцца рукой, каб "аддаць няўдачу".
2. Нельга напярэдадні іспыту стрыгчы пазногці і валасы, каб не ўкараціць розум, таксама студэнты не раяць мыць галаву, бо з яе вымыюцца веды.
3. Трэба чхаць, думаючы аб іспыце. Некаторыя спецыяльна даюць сабе ўстаноўку думаць аб іспыце і прымаюцца мучаць свой нос ўсякімі спосабамі, каб чхнуць. Чхнуў – значыць, пашанцуе. А некаторыя студэнты робяць так: чхнуць і адразу хуценька кажуць: "Чырвоны дыплом".

Змагацца ў студэнцкім асяроддзі з прыкметамі і рытуаламі гэтак жа бессэнсоўна, як змагацца з выкарыстаннем шпаргалак. Але тэндэнцыя з выкарыстаннем прыкмет прыкладна такая: на малодшых курсах імі карыстаюцца практычна ўсе, на старэйшых – ужо толькі адзінкі.

Студэнты старэйшых курсаў ставяцца да забабонаў больш спакойна. Яны разлічваюць не столькі на поспех, колькі на веды і тыя навыкі іспытаў, якія ў іх ужо выпрацаваліся.

Аднойчы надыходзіць такі момант, калі студэнт забывае свой каштоўны талісман дома. Але здае іспыт паспяхова. І тады талісман "памірае". Залежнасць ад яго знікае. Можа, да яго застаюцца добразычлівыя адносіны, але яны будуць з адценнем лёгкага смутку, як да чагосьці дзіцячага, з чаго вырас.

Вольга ЮРКЕВІЧ
olga920420@gmail.com

ISSN 1991-7155
9 771991 715006

Камент-эксперт
erh.by
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420**, на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**

# Рэгіянальная газета

## Чытайце праз тыдзень:

- **Незалежная рэспубліка са сваёй канстытуцыяй і ўласным войскам у цэнтры Вільні. Калі з'явілася Рэспубліка Зарэчча і хто ў ёй жыве?**



## НАДВОР'Е

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +1 / +2 | | 0 / +2 | | -2 / -1 | | -2 / 0 | |
| | 734 | ↓ 5 | 737 | ↓ 5 | 742 | ↓ 6 | 739 | ↑ 1 |
| Вільня | +4 / +2 | | +2 / +1 | | -2 / -1 | | -3 / -1 | |
| | 745 | ↙ 4 | 748 | ↓ 6 | 753 | ↙ 4 | 743 | ↖ 4 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, заход па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 9.31
Захад 17.05
Даўжыня дня 7.34

Усход 1.38
Захад 12.17
Квадра 4

**5 студзеня, субота**

Віцебск: +1, +2, 740, ↓ 1
Гродна: 0, 0, 748, ↘ 5
Мінск: 0, +2, 737, ↓ 5
Магілёў: -1, +1, 742, → 2
Брэст: +2, +2, 748, ↘ 5
Гомель: 0, +1, 745, ↓ 5

## ПРЫКМЕТЫ

- Птушкі цвыркаюць – будзе цёпла.
- Кот ляжыць сярод хаты – будзе цёпла.
- Як студзень цёплы на лік, дык завідны сакавік.
- 6 студзеня – Куцця, пярэдадзень Каляд.

## ГАРАСКОП (4-10 СТУДЗЕНЯ)

**Авен.** Старайцеся быць дынамічнымі, раптоўнымі і яркімі. Не разважайце доўга, дазвольце сабе паддацца пачуццям. Гэта прынясе толькі карысць.

**Цялец.** Лепш не плануйце ніякіх новых спраў. Пачакайце крыху, потым зможаце дасягнуць таго, што заплануеце. Галоўнае – актыўна адстойваць свае інтарэсы і быць цалкам упэўненым у сабе.

**Блізняты.** Ваш энтузіязм зрушыць горы. Пачатак новых спраў і праектаў залежыць толькі ад вас. Натхняйце іншых, шукайце новыя ідэі і мэты.

**Рак.** Спробы вярнуць ранейшыя адносіны бесперспектыўныя – прызнайцеся сабе, што некаторыя сувязі сыходзяць назаўсёды.

**Леў.** Фінансавыя справы на вышыні, мары спаўняюцца, а асабістае жыццё падае прыемныя сюрпрызы.

**Дзева.** Вам надзвычай карысная будзе змена абстаноўкі. Нехта задумаецца пра новае месца працы. Зоркі сцвярджаюць, што шкадаваць вам не прыйдзецца.

**Шалі.** Вы выступаеце ініцыятарам сямейных і сяброўскіх забаў, стараецеся падняць усім настрой. А вось пра ваш эмацыйны стан ніхто, на жаль, акрамя вас, не паклапоціцца.

**Скарпіён.** Вам добрую справу зробіць пачуццё гумару, і не надавайце вялікай увагі дробязнаму рознагалоссю.

**Стралец.** Уласнае жыццё парадуе, ёсць верагоднасць нечаканых прыемных падзей. Уласцівая вам прыстойнасць і сумленнасць дапамогуць пазбегнуць праблем у рамантычных адносінах.

**Казярог.** Не выключана, што вам захочацца прыняць удзел у рызыкоўных мерапрыемствах. Тады будзьце разумнымі і асцярожнымі, як ніколі.

**Вадалей.** Удзяліце ўвагу фінансавым пытанням, сацыяльнаму становішчу і дзелавому партнёрству. Разбярыцеся са сваім "я", з матывамі паводзін, каб палепшыць канцэнтрацыю ўвагі і мэтанакіраванасць.

**Рыбы.** Перыяд павінны прынесці добры настрой, паступовы інтэлектуальны ўздым і як вынік – творчы ўсплёск.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

### Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

**РЭПЕРТУАР НА СТУДЗЕНЬ**

**Ад 4 па 6 студзеня** 2013 года – навагоднія і калядныя ранішнікі "Навагоднія жаданні". *Т. Чаеўская.*

**13 нядзеля 12.00** **"МЕЧ АНЁЛА"** (батлеечныя варыяцыі)

**20 нядзеля 12.00** В.Мятальнікаў. **"СПЯЧАЯ ПРЫГАЖУНЯ"** (казка-сон паводле Ш.Перо)

**27 нядзеля 12.00** Л.Шwэмберг. **"МАША І МЯДЗВЕДЗЬ"** (народная казка)

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе: Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в. Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

### Мінскі абласны драматычны тэатр

**РЭПЕРТУАР НА СТУДЗЕНЬ**

**ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ**

**4 пятніца 19.00** **"ПСІХААНАЛІТЫК ДЛЯ ПСІХААНАЛІТЫКА"** (камедыя для дарослых у 2-х дзеях)*Дыяна Балыка*

**11 пятніца 19.00** ПРЭМ'ЕРА. **"СЯМЕЙНЫ ПАРТРЭТ З ПАБОЧНАЙ АСОБАЙ"** (камедыя ў 2-х дзеях) *Сцяпан Лабазёраў*

### Рэпертуар к-ра "Радзіма"

**4 СТУДЗЕНЯ**

**"ТРЫ БАГАТЫРЫ НА ДАЛЁКІХ БЕРАГАХ"** 3D 14.00

**"З НОВЫМ ГОДАМ, МАМЫ"** 19.10

**"ХОБІТ. НЕЧАКАНАЕ ПАДАРОЖЖА"** 3d 16.00, 21.00

**5-7 СТУДЗЕНЯ**

**"ТРЫ БАГАТЫРЫ НА ДАЛЁКІХ БЕРАГАХ"** 3D 12.00, 14.00

"З Новым годам, мамы" 19.10

**"ХОБІТ. НЕЧАКАНАЕ ПАДАРОЖЖА"** 3D 16.00, 21.00

**8-10 СТУДЗЕНЯ**

**"ТРЫ БАГАТЫРЫ НА ДАЛЁКІХ БЕРАГАХ"** 3D 16.00

**"З НОВЫМ ГОДАМ, МАМЫ"** 21.00

**"ХОБІТ. НЕЧАКАНАЕ ПАДАРОЖЖА" 3D** 17.40

## ДА СВЯТОЧНАГА СТАЛА

### Салата "Вожык"

*1 курыная грудка, палова бляшанкі кансерваванага гарошку, 5 адвараных яек, 150 грамаў сыру, 1 зубок часнаку, маянэз, масліны для ўпрыгожвання.*

Змяшайце разам: дробна парэзаную адварную курыную грудку, гарошак, размятыя відэльцам жаўткі яек, зубок часнаку і нацёрты на буйной тарцы сыр.

Запраўце маянэзам.

Пакладзіце горкай на талерку. Зверху намажце сумессю з дробна нацёртага сыру і яечнага бялку, запраўленую маянэзам. Разрэжце масліны на 4 часткі, гэта і будуць іголкі. Гэтак жа выражце з маслін кружочкі, гэта вочкі і носік.

Атрымаўся вожык! Смачна есці!

**Еўдакія БОРШЧ.**

### Фіялетавае пячэнне

Пячэнне з чорных парэчак мае непаўторны пах і прыемны бэзавы колер. Гатуецца ж хутка і лёгка.

Замарожаныя чорныя парэчкі – 200 грамаў
Масла – 200 грамаў
Цукровая пудра –100 грамаў
Мука – 260 грамаў
Молатыя арэхі – 80 грамаў
Крухмал – 40 грамаў

Масла размякчыце і ўзбіце разам з цукровай пудрай. Пасля паступова дадайце ў масу размарожаныя чорныя парэчкі. Рабіце гэта так, каб ягады палопаліся і добра перамяшаліся з маслам.

Пасля дадайце молатыя арэхі, прасеяную муку і крухмал, замясіце цеста.

З атрыманай масы скруціце "кілбаску" дыяметрам 4-5 сантыметраў. Загарніце яе ў харчовую плёнку і пакладзіце ў халадзільнік на 30 хвілін.

Праз паўгадзіны нарэжце "кілбаску" кружочкамі, пакладзіце на бляху і запячыце ў духоўцы пры тэмпературы 200 градусаў каля 15 хвілін.

Смачна есці!

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

## АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МАЛАДЗЕЧНА




Фота Аляксандры ПАРАХНІ.

**Няхай валютныя чаканні гэтых людзей спраўдзяцца ў новым годзе!**



Рэгіянальная газета
Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6500 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная. № 01 (923) 4.01.2013.
Друкарня ТДА "Знамение". Г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення друкарскай дзейнасці №02330 /0150475 от 25.02.2009 г.
Зак. 1130. Падпісана ў друк у 10.00 3.01.2013.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by http://rh.by Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.